# ДЗВЕ ЗІМЫ

*Ну вось з табой сустрэліся і мы,*
*Ссівелыя, нібыта дзве зімы...*

kamunikat.org

# КАЛЯ ВОГНІШЧА

Над восеньскім полем адзіная зорка
То знікне, то зноў задрыжыць угары.
Павеяла дымам вільготным і горкім
З кастра, што, відаць, дагарэў без пары.

Знаёмыя пахі сатлелай ігліцы
Я прагна ў абветраным полі лаўлю
І мару,— да вогнішча б мне прытуліцца,
Іскрынку б знайсці,— я агонь распалю.

Знайшоў і з-пад прысака выграб жарынку,
Дыханнем яе у далонях сагрэў,
Падкінуў ігліцы, і цераз хвілінку,
Як znічка, агеньчык дрыжаў і гарэў.

Я ўкленчыў прад ім, нібы вогнепаклоннік,
Прасіў не патухнуць, ажыць і гарэць.
Дрыжаў язычок, і зялёненькі конік
Да вогнішча выскачыў лапкі пагрэць.

Агонь зашугаў, затрашчала ламачча,
Гарачыя іскры ляцелі да зор...
У полі асеннім — такая удача —
Знайсці і раскласці з іскрынкі касцёр.

Таму не было мне і ў змроку трывожна,
Хоць нейчыя крокі пачуў за спіной:
Да вогнішча з поля прыйшоў падарожны,
І мы гаварылі па мове адной.



Kamunikat.org

Ігліца трашчала, ламачча гарэла,
Асеннія ветры свісталі ўвушшу.
Мне рукі азяблыя полымя грэла,
А роднае слова сагрэла душу.

Kamunikat.org

## ЦВІТУЦЬ РАМОНКІ

Іду па лузе басанож,
Між пальцамі цвітуць рамонкі,
І раптам заіскрыўся дождж,
Вясёлы, сонечны і звонкі.

Кашулю кіпу на траву,
Застыну ў плёскаце і гудзе
І радуюся, што жыву
У гэтым навальнічным цудзе.

З-пад ног маіх ручай бяжыць,
Узыходзяць дзве вясёлкі ў небе.
І хочацца бясконца жыць
На жытнім і сумленным хлебе.



Kamunikat.org

## *ПРАВОДЗІНЫ*

Да ростаняў сына праводзіла маці.
Спынілася ў полі яшчэ давідна.
І з гэтай хвіліны ў астуджанай хаце
Чакаць яго будзе адна і адна.

На сына глядзела, нібы на маленні,
І ледзь прашаптала замову замоў:
«Ты многае траціў, а страціш сумленне,
І сцежку ніколі не знойдзеш дамоў».

Забляклай рукою дарогу хрысціла
І выпіла горкае гора да дна:
Апошняга сына у свет адпусціла
І з гэтай хвіліны да скону — адна.

## *ДАЛЁКАЯ ЗОРКА*

Што ў кожнага ёсць пуцяводная зорка,
Не вельмі я веру, а зорку сваю,
Калі мне бывае і горна, і горка,
І ў воблачным небе усё ж пазнаю.

Яна не дала мне калісьці прапасці,
Яна ратавала заўсёды ў бядзе,
З глыбокае прорвы дарогай да шчасця
Вяла мая зорка і зараз вядзе.

Я ў зорнае неба ўзіраюся зорка
І ціха, нібыта малітву, шапчу:
«Не згасні, мая недасяжная зорка,
Калісьці і я да цябе далячу».

Kamunikat.org

## *ДАВЕР*

Не верыць і спрачацца годзе,—
Ад недаверу ўся бяда,
А ў неспакойнага стагоддзя
Такая хісткая хада.

Не толькі мы, а касманаўты
З касмічнай бачаць вышыні
У праўдзе колькі ёсць няпраўды
І колькі праўды — у хлусні.

Хлусня даўно не знае меры,
Таму далёка так чуваць...

На праўдзе толькі і даверы
Зямлю магчыма ўратаваць.

kamunikat.org

## ЗЯМЛЯ

Чаго ты толькі не сцярпела?
Якой ты толькі не была?
Гадамі ў полымі гарэла,
І пуставала, і цвіла.

Цябе разорвалі траншэі,
Нявечылі свінец і тол,
А ты жывеш, і харашэе
Твой далягляд і кожны стол.

Мяняўся воблік твой і выраз,
Калі араты з гора слеп,
І ўсё ж на чорным прыску вырас
Пасляваенны першы хлеб.

Табе было да болю млосна,
Што бульба парасла з арэх,
А восенню палетак посны
Даваў аўса не поўны мех.

Пасціла ты, але маўчала,
Хаця і мела шмат патрэб.
Але заўсёды выручала,
Нам даючы скаромны хлеб.

Цябе ў жніво дажджы мачылі,
Увесну сухавей караў,
А часам сейбітаў вучылі,
Хто сам не сеяў, не араў:



Kamunikat.org

Загадвалі араць глыбока,
То мелка жвір і глей балот,
Але часцей вылазіў бокам
З эксперыменту умалот.

З пасадаў невукаў здымалі,
Як ні круціліся яны,
Хоць не заўсёды прызнавалі
Ўсю меру ўласнае віны.

Неспадзяваныя навалы
Цярпела ты з апошніх сіл,
І ўсе агрэхі даравала,
Каб толькі быў надзейны тыл.

Калісьці сейбіт на калені
Сам станавіўся прад табой,
Цяпер другое пакаленне
Вядзе за хлеб надзейны бой.

Зямля! Схіляючыся нізка
Перад табой, мы йдзём далей.
Ты — наша маці і калыска
І наш адвечны маўзалей.

kamunikat.org

## *ГАРАЧЫ ЧЭРВЕНЬ*

Ані дажджу,—
ні ранішняй расы,
У чэрвені злятае ліст за лістам,
Збялелі зарунелыя аўсы
І нават не шанцуе футбалістам.

Сланечнікі паапускалі вушы,
І крапіва ліпіць з апошніх сіл,
А сонца смаліць, сонца сушыць,
Ляціць над полем пасівелы пыл.

Трашчыць, як порах, жоўтая іглiца,
Ад смагі захлынаюцца шпакі,
Перавярнулі глей каля крыніцы,
Але напіцца не змаглі дзікі.

Ласі ўздыхаюць і равуць ад страху
І ў гушчары хаваюцца радзей,—
Каб толькі наталіць як-небудзь смагу,
Шукаюць паратунку у людзей.

Ідуць ласі услед за самым дужым,
І ловяць ноздрамі вільготны пах,
І прагна п'юць з пазелянелай лужы,
Аж кроплі закіпаюць па губах.

Паветра зіхаціць, нібы шкляное,
Над купамі зажураных бяроз,
Бо спёку нечаканую вясною
Гарачы вецер з Прыпяці прынёс.



Kamunikat.org

Нарэшце грымнуў гром, і зашумела,
Заклекатала, загула вада,
У дахі барабаніла і пела,
Што мінавалі спёка і бяда.

Плывуць над полем, быццам нашы мары,
Суцэльныя аблокі, дождж імжыць,
На Захадзе маланкі хрысцяць хмары:
Зямля ўздыхнула — значыць, будзем
жыць.

Kamunikat.org

## *ВЕРУЮ*

Я — веруючы.
Верую і веру
Не ў мішуру
Замшэлае імшы,
Не ў казачныя
Райскія хімеры,
Не ў сілу
Адзічэлае душы.

Я — веруючы.
Верую і веру
У справядлівасць,
Дабрату, святло,
А не ў пустыя словы
І паперы,
Што хітра прыкрываюць
Толькі зло.

Я — веруючы.
Верую і веру
Заўжды
У беспамылковасць
Пачуцця
Мільёнаў,
Што, не робячы кар’еры,
Усё, што могуць,
Робяць
Для жыцця.

Я — веруючы.
Верую і веру,



Kamunikat.org

Што дабрата
Асіліць сілу зла,
Што над пустою
Пахвальбой без меры
Верх назаўсёды
Праўда узяла.

Я — веруючы
Верай чыстай пробы,
Адзіны бог
І для мяне кумір.
Мой бог таксама мае
Тры асобы —
СУМЛЕННЕ,
ПРАЎДА,
І трывалы МІР.

kamunikat.org

## *МАЛАДАЯ ЗІМА*

Звіняць па застылай рабіне маністы,
Як гронкі, на веццi вісяць снегіры,
І хмарка плыве з абадком залацістым
Над зарывам дымнай вячэрняй зары.

З рабіны апошні лісток ападае
На першы, падсінены прыцемкам снег,
Павольна ў сутонні зіма маладая
Снягі рассцілае сабе на начлег,

Сузор'ямі ўсыпала чыстае поле,
Дарогі, прысады, платы і двары,
І толькі рабіны настылае голле
Палае праменьчыкам позняй зары.

Па полі імчыцца зіма маладая
І след замятае іскрыстай пургой,
А месяц, нібыта званочак Валдая,
Звініць і звініць пад блакітнай дугой.

## *ГЛОБУС ПАМЯЦІ*

З гадамі сышліся у фокус адзіны
Паўднёвыя пальмы, палярныя льдзіны,
І хмельная постаць далёкай каханай,
І спеў салаўіны, і ў стэпе барханы,
Бульвары Парыжа і спелае жыта,
Таежныя лыжы і танец джыгіта,
Юнацкае шчасце, і позняя скруха,
І сонца ў зеніце, і свіст завірухі,
Пралескі на ўзлессі, і горыч рабіны,
І велічны гул дзіўнагорскай турбіны,
Саянскія кручы, палескія рэкі
І плаўны арол над плацінай Нурэка.
Аднолькава свецяць блакітныя зоры
Над стрэхамі Глуска і вежай Віндзора.
Я ўсё гэта чую, я ўсё гэта бачу,—
Знайшоўшы аднойчы, ніколі не трачу,
Бо з кожнай дарогі прывожу знаходкі —
Нарыльск і зацішныя бухты Находкі,
Імёны, абліччы, узоры пароды
І гул акіяна — са мною заўсёды.
Часамі мільгае іскрынкаю ў дыме
Адвечная скарга: «Былі ж маладымі!
Гады праляцелі і сталі не тымі».
І хочацца часам прызнацца ў інтыме,
Амаль што бязгрэшным, заўсёды прыстойным,
А ўспомніш,— і нельга застацца спакойным:
Да радасных я успамінаў прыкуты,
Бо веру, што ўрэшце мінаюць пакуты,
Зацятыя спрэчкі, пустыя дакоры,
Але не забыцца народнаму гору,

Што ў сэрцы гарыць, як пад попелам прысак,
На месцы сатлелых валос і калысак...
Набыткі, і страты, і смерць, і радзіны
З гадамі сыходзяцца ў фокус адзіны:
Балючае памяці круціцца глобус
Набіты людзьмі, як вячэрні аўтобус,
Ім цесна, ім душна, часамі балюча —
Мне ў цемя ўпіваецца памяці сучча,
Дарогі запознены снег замятае,
І толькі гарачая памяць, святая,
Не зблытае полюсы і паралелі,
Хоць сэрца, і рукі, і вусны знямелі,
Хоць тое, чым жыў, адыходзіць са мною...
Пастойце!
                    Куранты чуваць за сцяною.
Вяртаюся... Дзень пачынаецца Гімнам
Над светам трывожным, спякотным і дымным,
І зноў ажываюць сузор’і і людзі.
Канца ім няма!
                              Канца ім не будзе!

Kamunikat.org

## ***ЗВАРОТ***

Га-рад-скія...
Ўсе ж мы з вёскі,—
З Глуска, з Клецка, з Капыля.
Хто там нашы жне палоскі?
Як без нас жыве зямля?

Хто пра наша дбае шчасце,
Ноччу ловіць кожны гук
І не знае, дзе пакласці
Спрацаваных цяжкіх рук?

Не рыпяць масніцы ў хаце,
Бо з цямна і давідна
З думамі сваімі маці
Дажывае век адна.

Уздыхне, паплача трошкі:
Як там дочкі, дзе сыны,
На пустыя гляне ложкі
Каля кожнае сцяны.

Часам стукне ў шыбу вецер
І закруціць кудаса,
Ды зазвоніць пад павеццю
Некляпаная каса.

Старшыня, прызнацца, дбайны.
Агранома ганіць грэх:
Звезлі сена і камбайны
Не заносіць болей снег.



Kamunikat.org

Навазілі дроў удовам,
Не забылі пра калек.
Што ж адходзіць?
На гатовым
Дажывай спакойна век,

Не вылазь да лета з хаты
І не рві сябе на злом.
Маці ж век была аратым,
А пасля вайны — цяглом.

Маці думае ўсе ночы,
І няма каго карыць,
Што ніхто не прыйдзе вочы
У апошні раз закрыць.

А падсохне поле, маці
Дапаможа на сяўбе,
Прыйдзе час, на сенажаці
Трохі сена паграбе.

Позняй восенню за ўзгоркам
Пройдзе моўчкі па раллі
І зграбе у жменьку горкай,
Потам соленай зямлі.

Ну, а мы ў аўтамабілі
Часам ездзім і ў кіно,
Ганарымся, што забылі
Слова матчына даўно.

Нам за плуг ужо не брацца.
Прывучаем слых і зрок,
Каб найлепш уславіць працу
Спрацаваных мацярок,

Расказаць, як Тэклі, Стэфы
Гаспадарку паднялі...
Ну, а мы?
Мы — толькі шэфы
Нашай дзедаўскай зямлі.

kamunikat.org

## *МОЙ СВЕТ*

Вселенную, знайте, спасет
Наш варварский, русский Восток.

*І. Севяранін*

Не спіцца. Зноў і зноў трывога
То затрымціць, то скалане:
Пакут на белым свеце многа,
І ўсе праходзяць праз мяне

То водгуллем глухога рэха,
То ўсплёскамі радыёхваль,
То загрыміць па мірных стрэхах
Гартаваная ў пекле сталь.

Мой свет, блакітны і зялёны,
Чароўны і стаптаны без віны,
Трымайся, бо цябе вядуць да скону
З вышэйшаю асветай дзікуны.

Цябе мы неаднойчы засланілі,
Зямля мая, ад полымя вайны,
Зноў зберагчы цябе збіраем сілы,
Каб часам не ўзарвалі дзікуны.



Kamunikat.org

## *ІДЗІ І ГЛЯДЗІ*

*Алесю Адамовічу*

Былы забойца некаму разжоўваў,
Ды бессаромна «сведчыць» і цяпер,
Што кроў тады была ўсяго ружовай,
А краты аздаблялі інтэр’ер.

Вяшчаюць так, так успаміны пішуць
Былыя прыхадні і каты ўсім на здзек,
Каб толькі неяк у зацішку выжыць
У неспакойны і каварны век.

Яшчэ і сёння летуценням волю
Яны даюць, заходзячы у цір,
І часта прымяраюць збіты моллю
І ўвесь крывёй запырсканы мундзір.

Былыя лаўры ім галовы кружаць,
Выдатным выканаўцам страшных драм.
Яны і сёння бездакорна служаць,
Але ужо другім гаспадарам,

Апраўдваюць усё на кожным кроку,
Салодзячы пілюлю, як раней.
Хлусня, яна заўжды навідавоку,
А вось паўпраўда за хлусню страшней.

Адстойваць праўду з ісцінай заўсёды,
Не забываць крывавыя сляды
Павінен кожны без узнагароды.
Не скажаш праўды,— зноў чакай бяды.

## *СТАТЫСТЫКА*

Статыстыка яшчэ не ўсё ўлічыла,—
Пакут сірочых, мацярынскіх слёз,
І колькі лёсаў гора разлучыла,
І тых, што не знайшлі шчаслівы лёс.

Статыстыка мільёны акругліла,
Відаць, лічыць мільёнамі прасцей
Пагосты ўздоўж гасцінцаў і магілы,
Забітых і скалечаных дзяцей.

Ніхто не палічыў і не палічыць
Тых геніяў, што пахавалі мы.
А іх заўсёды юныя абліччы
Зноў ажывуць у замеці зімы.

Наш век бязлітасны, трывожны і пярэсты.
Ніхто не ведае, які наступны ход.
Сівыя сіраты і вечныя нявесты
Клянуць дагэтуль сорак першы год.

kamunikat.org

## ТАКІ АДКАЗНЫ ЧАС

Мае сябры — Алесь, Валодзя, Коля[1],
Зноў сонца асляпіла цёмны лес,
А вы ужо не ўбачыце ніколі
Усход сягонняшні і заўтрашні прагрэс.

Я ўсё па вас бядую і сумую,
Я з вамі раюся і з вамі гавару,
І спадзяюся, што перазімую.
Радню не патурбую не ў пару,

Калі зямля марозамі закута,
Што не прабіць ні ломам, ні кайлом,
Каб грабары не лаяліся крута,
Я лепш зіму праседжу за сталом.

Каб дапісаць, што не паспеў калісьці,
Каб даказаць, чаго не змог сказаць.
Каб адшукаць пязііойдзепае выйсце,
Пачатак і канцы жыцця звязаць,

Каб паглядзець, як сонца ўзыдзе зноўку,
Каб адагрэць настылую душу,
Да будучай вясны адтэрміноўку
Я у каргі з касою папрашу.

А там, магчыма, дождж і вецер стылы
Яе яшчэ здалеюць затрымаць,

[1] Алесь Пальчэўскі, Уладзімір Мяжэвіч,
Мікола Хведаровіч.

І мне непадалёку ад магілы
Яе усё ж удасца ашукаць,

Бо скласці рукі часу і жадання
У такі адказны час ніяк няма,
Калі ва ўсім патрэбна парыванне,
Калі нішто не робіцца дарма,

Калі змяняецца усё на кожным кроку,
Чаго чакалі доўгія гады,
Калі хлусня наскрозь відна здалёку,
А праўда стала Праўдай сапраўды.

Мае сябры — Алесь, Валодзя, Коля,
Шкада, што новы росквіт на зямлі
Вы не пабачыце ніколі,
Шкада, што да яго не дажылі.

Kamunikat.org

## *ПРАЗ ПАЎСТАГОДДЗЯ*

Іду. Не пазнаю нічога,—
Даўнейшых вуліц і дамоў.
Няўжо вось гэтая дарога
Заўжды вяла мяне дамоў?

І я тут жыў. Мая калісьці
Стаяла хата пры шашы,
На вішнях шапацела лісце
І дакраналася душы.

Успамінаць былое годзе,—
Мінула ж толькі паўстагоддзя.

Не пазнаю, а ўспамінаю
Усё, што некалі было,
Ніводнай рыскі не мінаю,—
Маё і не маё сяло.

Мы з бацькам тут капалі студні,
Ваду крынічную пілі.
Былі часамі святам будні,
Л святы буднямі былі:

Усё мяняецца ў прыродзе,—
Мінула ж толькі паўстагоддзя.

Дзе з пачарнелай аканіцай
Хаціна нашая была,
Стаіць чужая камяніца
У промнях мяккага святла,



Kamunikat.org

І куст вяргіні дагарае,
Пасыпаны пясочкам двор...
За мною нехта назірае
З-за сініх аксамітных штор,

Апрануты па новай модзе...
Мінула ж толькі паўстагоддзя.

Магнітафон у светлай залі
Іграе танга ці факстрот.
І мы ж тут з мамаю спявалі
І гаравалі з году ў год.

Зайшоў няпрошаным у госці.
«Сядайце. Можа, справа ёсць?
Відаць, шукаеце кагосьці?»
Так. Не знаходжу маладосць.

І выпадкова, пры пагодзе,
Зайшоў сюды праз паўстагоддзя.

kamunikat.org

Былі і боязь, і адвага,
Былі і радасці, і боль,
Душу паліла ў спёку смага,
А раны раз’ядала соль.

Былі адлівы і прылівы,
А мне казалі:
«Не грашы,
Бо кожны і тады шчаслівы,
Калі трывожна на душы».



Kamunikat.org

## ПАМЯЦІ ФРАНТАВОГА ДОКТАРА ЕФРАСІННІ БРЭУС

Няўжо і ты на волі лёсу
Ужо не будзеш, а была
Шчаслівай, золатавалосай,
Жывым праменьчыкам святла,

Узнёслая заўжды, як песня
З тае далёкае пары,
Калі над намі ў паднябессі
Буслы кружылі на зары,

Калі было ўсё невядомым,
Калі на ростанях дарог
Адразу развітацца з домам
Ты не магла і я не мог.

Жыццё нас кідала па свеце,
Нам лёс не шкадаваў бяды.
Ты дні і ночы ў лазарэце
Была глытком жывой вады:

Ланцэтам, і душой ласкавай,
І казкай, што ішла з табой,
Пад Кёнігсбергам і Варшавай
Штодня ішла са смерцю бой.

Кружыўся попел пад Берлінам,
Твае грымелі кірзачы,
А жураўлі павольным клінам
Плылі да нашае Пцічы.

Пад кіцель ты адзела блузку.
Ўсе прышпіліла ардэны
І напісала «Доктар з Глуска»
На плітах чорнае сцяны.

На ўсходцах бітага рэйхстагу
Дагэтуль ёсць твае сляды.
Ты з медалямі «За адвагу»
Прыйшла і ў сталыя гады,

А іх было не так і многа...
Мне часта чуецца ўначы —
На даўніх франтавых дарогах
Твае сціхаюць кірзачы.

Kamunikat.org

## *ЛЮБАЯ МАЯ*

*Паводле народнага*

Што ж ты выстудзіла хату,
Любая мая?
Хоць сягоння і не свята,
Завітаю я.

Не скакалі і не пелі
Мы з табой даўно,
А каб дзверы не рыпелі,
Адчыні акно.

Ні скакаць, ні пець не будзем,
Божа барані,
Тату з мамай не разбудзім.
Толькі адчыні.

Нештачка скажу на вушка
І дамоў пайду,
Калі ты заснеш, падушку
Ціха падкладу.

Хоць сцюдзёна ў хаце будзе,
Я не задрыжу,
Покуль певень не разбудзіць,
Трошкі паляжу.

Певні тройчы пелі ў згодзе
Пра любоў сваю,
Я ж, як пудзіла ў гародзе,
Пад акном стаю.

## *ДАГАРЫЦЬ КАСЦЁР*

Пахне лес апалым лістам.
Гляну ў цёмную ваду
І, нібыта ў люстры чыстым,
Зорку нашую знайду,

Што табе і мне свяціла,
Што знікала, што вяла,
І не зоркай, а свяцілам
Неаднойчы нам была,

І цяпер увосень свеціць
І глядзіцца у ваду...
Я касцёр з сухога вецця
На ўзбярэжжы раскладу.

Пахне ў лесе восень горка,
Над вадою ліст ляціць.
Дагарыць касцёр. А зорка
Будзе некаму свяціць.

Kamunikat.org

## ДАДОМУ

Мяне насіла па зямлі.
Куды, навошта,— невядома.
Гады ляцелі і вялі,
І ўсё далей, далей ад дому.

Жыццё мяняла адрасы,
Перакрыжоўвала дарогі.
Ад сіверу і ад расы
Гарэлі змуленыя ногі.

Я шчыраваў, але збярог
Душу жывую, а не стому,
І ўсе нягоды перамог,
Каб толькі дабрысці дадому.

Куды ні кідаў горкі лёс,
Як ні глушылі ўдары грому,
Я ўсё стрываў і перанёс
І назаўжды прыйшоў дадому.

## АБОЗ

Пясок сплывае з колаў,
Паўзе за возам воз,
Замоўкла ўсё наўкола,
Рыпіць адзін абоз.

Па выдмах і па твані,
У засені бяроз,
У спёку і ў тумане
Рыпіць, рыпіць абоз.

Укрыты крупы парай,—
Такі ўжо конскі лёс:
Дзе па адным, дзе парай
Цягнуць вялізны воз,

Хамут пасіць нязменна
І разумець адно:
За клок сухога сена —
«Но!», «Но» і «Но!»

У памяці абозы
Плывуць у белы свет,
А я, малы і босы,
Іду за імі ўслед...

Даўно збялелі скроні,
І след прастыў даўно,
Прапаў абоз. А коні?
А коні ўсе — ў кіно.



Kamunikat.org

Нядоўгі век. І той пражыць не ўмеем:
То крыўда раз'ядае, то мана,
Ад нечаканай злосці камянеем,
І намі ўжо валодае яна,

На зайздрасці замешваецца крута
Бясконцая бяссонніца начэй,
І сочыцца, і сочыцца атрута
З дрыготкіх вуснаў і сухіх вачэй.

Мы ж аднадумцы ўсе і аднадомцы,
Каб стаць і даўгавечней, і дужэй,
Дабро памножым на дабро, каб сонца
Свяціла кожнаму даўжэй.

Няўжо сабе зласлівец не абрыдзеў
І вечна нездаволены ўдвая?..
Я ўсім дарую, хто мяне пакрыўдзіў,
Даруйце мне, каго пакрыўдзіў я.

## *КЛОПАТ*

Вясна, а лес — глухі і анямелы:
Не пракрычыць пі сойка, ні сава,
І выб’ецца марудна і нясмела
Каля крынічкі бледная трава.

Замоўкнуць, як падпаленыя, хвоі,
Асіны звесяць рэдкія чубы,
Зажурацца ў трывожным неспакоі
Сухім лісцём зімовыя дубы,

Датлеюць пад імхом камлі і трэскі,
Асіплы чмель не зможа загусці,
Над копанкаю лотаць і пралескі
Не здолеюць і ўвесну зацвісці.

Крамсалі хвойнік шрамамі падсочак,
Карэнне трушчылі шыпы і ланцугі,
Бярозы сарамліва, без сарочак,
Схіліліся да долу ад тугі,

Чарнічнік златашылі браканьеры,
Лася жаканам зрэзалі ў трысці,
І хутка ўжо ні птушкі і ні звера
Не ўдасца ні пачуць і пі знайсці.
Куды ж ісці?

Няхай не сёння, але неўзабаве
Суседні лес задушыць чад і дым…
Шчыруем і не думаем, ці ў праве
Нічога не пакінуць маладым.

## *ЦЕСНАТА*

Які шчаслівы быў я ў вузенькім закутку.
Каля шчарбатай дымнае пліты,
Калі сінелі ў садзе незабудкі,
Калі спазнаў, што ёсць на свеце ты.

Галінка стукалася ў шыбу асцярожна,
Глядзеўся ў зломак люстра маладзік,
А нам было і добра, і трывожна,
Каб гэты вечар назаўжды не знік.

Ён доўжыўся з вясны да лістапада:
Ляцелі ў цемру зоры і лісты.
Былі ў пакоі ласка і спагада,
Было нас трое — шчасце, я і ты.

Я верыў, што нішто нас не разлучыць,
Што радасць і на сцюжы прарасце,
Што не згінацца і ў бядзе навучыць,
Што нам прасторна будзе ў цеснаце.

За лістападам снежань замяцеліў,
Сплыло нямала мутнае вады.
Шумеліліўні і лісты ляцелі,
Як нашы незваротныя гады.

Цяпер у пас і светла, і прасторна,
І нават кактус на акне цвіце,
А нам бывае холадна і горна,
Бо шчасце засталося ў цеснаце.



kamunikat.org

## *ПАДАБЕНСТВА*

Зямля набрыняла цяплом і вадой,
Адталая прызба дыміцца пры хаце,
Блакітная далеч іскрыцца слюдой,
Саджаюць вяргіні дачушка і маці.

У садзе кіпіць ручаямі вясна,
Чуваць, як пульсуюць у яблынях сокі,
У маці на скронях мігціць сівізна,
Ў дачушкі палаюць крамяныя шчокі.

Яна — парыванне і лёгкі палёт.
А маці марудна раўняе разоры,
Здаецца, нядаўна, як вецер, праз плот
Ляцела яна і не ведала зморы.

Шчаслівая маці, бо столькі цяпла —
У булькванні, клёкаце, свісце і гудзе,
Што помніць — такой, як дачушка была...
Падобнай на маці дачка яе будзе.

## *ДЗВЕ ЗІМЫ*

Ішлі ўдваіх, ды разышліся сцежкі,
На вогнішчы датлелі галавешкі,
Развеяўся ад іх блакітны дым
Над лесам і над лёсам маладым.

Здалося,— разышліся назаўжды
І больш ужо не вернемся сюды.
Хвастала нас такая навальніца,
Што нават і ў гарачцы не прысніцца,

Завея праціназа навылёт,
І толькі ў сэрца не прабіўся лёд.
Яно яшчэ гарачае і сёння
І прагне жыць, забыўшыся аб сконе...

Нарэшце чалавек з усіх дарог
Вяртаецца на родны свой парог.
Ну, вось з табой сустрэліся і мы,
Ссівелыя, нібыта дзве зімы,

І гаварыць ужо няма аб чым,
Дык лепш на развітанне памаўчым,
Бо неўзабаве і для пас
Будзільнік празвініць апошні раз.

## *РОДНЫ БЕРАГ*

Зялёны, жоўты і чырвоны,
Аранжавы і залаты,
Нібы яскравыя фальбоны,
У танцы кружацца лісты.

Ляцяць над берагам і рэчкай
І падаюць на светлы плёс,
А ў цёмную ваду, як свечкі,
Глядзяцца макаўкі бяроз.

За лесам — лес, за лугам — поле,
Слупы, апоры і стагі,—
Куды ні пагляджу, да болю
Прастор з маленства дарагі

Маёй нятленнай Беларусі —
І курганы, і бальшакі...
Калі сыду ў нябыт,
вярнуся
На гэты бераг праз вякі.



Kamunikat.org

## ***КАЛЫХАНКІ***

Я чую, як грукочуць танкі,
Гарматы недзе б'юць і б'юць,
Дыміцца кроў,
а калыханкі
Яшчэ на ўсёй Зямлі пяюць.

В'етнамкі і амерыканкі
У поўнач сонныя ўстаюць
І да світання калыханкі
Паціху, як і ў нас, пяюць,

Каб без трывогі спалі дзеці
І падрасталі, як свае,
Бо песня лепшая на свеце,
Якую маці прапяе.

Салдаты ўсёй Зямлі, глядзіце,
Як спіць маленькі чалавек,
Яго вы толькі не будзіце,
Яго не скарачайце век,

Вы зачахліце ўсе гарматы,
Закрэсліце нейтронны жах,
Усе святкуйце разам сьвяты
На самых мірных рубяжах.

У чалавека век кароткі.
Навошта ж скарачаць яго?
Л ўсе салдаты-аднагодкі
Павінны жыць да аднаго

На самай сонечнай планеце,
Каб ёй ніколі не згарэць,
Каб спаць маглі спакойна дзеці
І маці калыханкі пець.

Kamunikat.org

* * *

Мы з табой разышліся калісьці,
Выпадковы забыўшы начлег,
І за намі апалае лісце
Замятаў нечаканасці снег.

Адшумелі даўно крыгаходы,
Адгрымелі над намі грамы,
Але я спадзяваўся заўсёды,
Што сустрэнемся некалі мы.

Як далёкага шчасця падкову,
Бачыў я неаднойчы у сне
І цябе, і начлег выпадковы,
І на ростанях снег па сасне.

## *НАТХНЕННЕ*

Яно — і тайна, і загадка,
Наіўнае, нібы дзіця,
Тлумачыць часам вельмі гладка
І сэнс, і мудрасці жыцця.

Адкуль прыходзіць, невядома,
Як досвітак, як ранні снег,
Як асалода або стома,
Як нечаканы першы грэх,

Як боль Зямлі, як пыл сусвету,
Даходзяць гукі да душы,
І голас ісціны паэту
Ужо загадвае: «Пішы!»

Сціскае сэрца боль пякучы,
Пранізвае і слепіць ток,
І падаеш у бездань з кручы,
Каб першы адшукаць радок.



kamunikat.org

## *СНЫ*

Мы бачылі аднолькавыя сны:
Ты мне, а я табе прысніўся,
І ў чадзе ранняе вясны
Неспадзявана правініўся.

Не абурайся і прабач,
Што парушаю сон жаночы,
Што ад трывог і ад няўдач
Цябе турбую сярод ночы,

Што я ў твае прыходжу сны
Шукаць і ласкі, і пяшчоты...
Пакуль з табою мы адны,
Не трэба прызнавацца, хто ты.

І ты ж у мой прыходзіш сон:
Спадае долу пакрывала...
Відаць, сустрэч з юнацкіх дзён
Было недаравальна мала.

Прачнуўся. Месяц праз акно
Блакітныя настроіў струны.
Няма нікога. І даўно —
Даўно замоўк твой голас юны.

Kamunikat.org

## *ЗВЕЧАРЭЛА*

Мы сустрэнемся з табою,
Калі сонца дагарыць,
Ты папросіш зверабою
Замест чаю заварыць.

Назбіраных летам зёлак
Я ў імбрычку завару,
Прыгадаю сіні золак
І ліпнёвую зару,

Тую, што з табой калісьці
Сустракалі мы ўдваіх
Пад дубовым росным лісцем
І на сцежках баравых.

Мы з табой суніц шукалі,
А гублялі марна час,
І за вёскай Перакалле
Навальніца стрэла нас.

Пад сухім мурожным стогам
Мы гняздо сабе звілі,
Хоць святцейшыя за бога
Мы тады яшчэ былі.

Нечаканыя дарогі
Развялі з табою нас.
Страт на іх бывала многа,
Але іх закрэсліў час.

Стрэліся, разварушылі
Мы забытыя гады…
Шкода, што не саграшылі
Пад вясёлкаю тады.

Мы глядзім цяпер абое
На вячэрнюю зару.
Я і сёння зверабою
Замест чаю завару.

Kamunikat.org

## СТРАЧАНАЯ СТАРОНКА

Ёсць прабел і ў маёй біяграфіі,—
Нехта выдраў старонку з яе.
Хоць не быў ні магнатам, ні графам я,
А старонкі усё ж не стае.

І старонкі не проста — на гора мне,
Што заснуць і дасюль не дае.
За яе мне нікалькі не сорамна
І шкада, што яе не стае.

Kamunikat.org

## СУДДЗІ

Чаму так часта хмурым бровы
І спешна вершым суд суровы,
Не над сабой, а над другім,
Заўсёды лічачы благім?
Таму, што ён не так, як мы,
Жыве з зімы і да зімы,—
Захоплены, непастаянны,
Заводзіць лёгкія раманы,
А потым рве адзіным махам
І цэлы год жыве манахам.
Пад коўдрай, кажуць, нешта п'е,
Хвалу Высоцкаму пяе,
То раптам давядзе з імпэтам,
Што ён зачараваны Фетам.
Такі няроўны, нелагічны,
Бывае часам анемічны,
А то настырны і уparты,
Дасціпныя пускае жарты,
Не за спіной, а толькі ў вочы,
Ды так, што мёртвы зарагоча.
То стане змрочны і калючы,
Нібыта кідаецца з кручы,
І патрабуе: «Бюракраты
Няхай на свет глядзяць праз краты!..»
Не зразумець, чаго ён варты,
Бо не ўмяшчаецца ў стандарты.
Яго імпэт мы не астудзім,
Хоць і не суддзі, ало судзім,
Але наўрад ці перайначым…
Шкада, што мы сябе не бачым.

## *АКЦЁРЫ*

Усе акцёры і актрысы,
Адольваючы ў сэрцы боль,
Мяняюць воблікі і рысы,
Каб выканаць удала роль.

Дубліруюць чужыя позы,
Чакаюць воплескаў дарма,
Смяюцца, калі душаць слёзы,
І плачуць, калі слёз няма,

Плывуць, бывае, без агляткі,
Куды фартуна занясе.
Ад суму пляскаюць у ладкі,
Калі запляскаюць усе.

Трапляюць ролі не па густу,
Але іграюць дзень пры дні,
Каб утрымаць кавалак тлусты
І не зваліцца з вышыні.

Не кожны з іх хапае зоры
І ведае ў чым сэнс і соль,
Але па волі рэжысёра
Выконвае любую роль —

Добразычліўца, рэзанёра,
То прастака, то мудраца,
А часам занудзіцца з гора...
Акцёрству не відаць канца.



Kamunikat.org

## *КАР’ЕРА*

І я імкнуўся да кар’еры.
І вось прабіўся у кур’еры.
Так, у кур’еры. І нашу
Спакой і боль з душы ў душу,—
Любоў і першыя трывогі,
Надзею ў шчасце перамогі,
То незнаёмага суцешу,
Прынёсшы спешную дэпешу.
Праніжа часам, быццам ток,
Душу ўсяго адзін радок.
Заўжды людское сэрца просіць
Хоць часам радасці прыносіць,
Спакой душы, іскрынку веры,

Таму падаўся у кур’еры.

Kamunikat.org

## ***НАДЗЕЛ***

Яшчэ і мой прамень не згас,
Хоць пройдзена не так і многа,
Але ляціць са свістам час,
Дыміцца дальняя дарога,

А недзе плавіцца траціл
І пекла на Зямлі прарочыць.
Бягу і я з апошніх сіл
Ад жахаў атамнае ночы,

А там — бясконцая зіма
І ў апраметную — дарога,
Ні зорак, ні турбот няма,
І больш ужо няма нікога.

На розум толькі ёсць надзея,
Хоць сэрца за дзяцей баліць…
Не, свет усё ж не звар’яцее
І сам сябе не спапяліць.



Kamunikat.org

***

Сумую па табе. Сумую.
Шукаю, клічу — ўсё дарма.
Не тэлеграм, цябе самую
Чакаю, а прыйшла зіма.

Куды ж занесла завіруха?
Дзе ты цяпер? Куды ідзеш?
Начамі сэрца точыць скруха,
Пакуль у ім адна жывеш.

Я то спрачаюся з табою,
То літасці тваёй прашу,
Каб узяла ў палон без бою
Маю настылую душу.

Ты і ўзяла...
І месяц срэбны
Глядзіць з-за воблака ў журбе,
Бо ты адна мне так патрэбна,
Як не патрэбен сам сабе.

### *ТРЫ ІМЁНЫ*

Вецер круціць снежны пыл.
Грузнуць полаз і капыл,
У сумётах тонуць сані,
І не блізкі свет да Сапі.
Еду, еду напрасткі
Цераз кручы і масткі,
Круціць снежны слуп віхор,
На бугор узлез бугор,
Слепіць вочы белы змрок,—
Пераходзіць конь па крок.
Не відно на полі следу,
А я еду, еду, еду.
Прыпынюся. А куды?
У юнацкія гады,
На чаканае спатканне
Да Алесі, Шуры, Сані.
Буду ехаць давідна,
Можа, стрэпе хоць адна...
Раптам блiснула святло:
Блізка Новае Сяло.
Рэзвай конь пабег хадою,
Бо вязе да маладое,
І прывёз ажно уранні
Да Алесі, Шуры, Сані.
Ад марозу паратунак —
Быў гарачы пацалунак
І пасаг — кісет чырвоны,
А ў прыдачу — тры імёны:
Шура, Саня і Алеся.

## *ЗА ВЫРАЕМ*

Можа, гэта апошняя восень
У маім неспакойным жыцці?
Колькі страціць у ім давялося!
І так мала ўдалося знайсці.

Зноў за выраем вырай знікае.
Толькі крылы і зоры ўваччу...
Мне здалося, што нехта гукае,
Але я адлятаць не хачу.

kamunikat.org

## *СТРАЧАНЫ ДРУГ*

Ён асцярожна так ідзе,
Каб не спаткнуцца аб парожак..
А друга кінуў у бядзе
І заваліўся ў цёплы ложак.

Пасля халодны душ прыняў,
Паснедаў, захапіўся працаю,
А друг знявечаны сканаў
Апоўначы ў рэанімацыі.

З работы пехатой ідзе,
Усім здаволены, дахаты,
І не заплямлены нідзе,
І быццам бы не вінаваты.

## *ПАЧАКАЙ*

Пачакай, маё сэрца, спыняцца.
Я ў дарогу яшчэ не гатоў:
Толькі часам трывожаць і сняцца
Мне завеі наступных гадоў.

Пачакай, маё сэрца, не трэба
Караціць укарочаны шлях.
Прыйдзе час,— пераверненца неба,
Згасне сонца ў асенніх палях,

Змрок на ўсё непражытае ляжа,
Змоўкнуць гром, галашэнне і спеў,
І ніхто за мяне не раскажа,
Чаго я расказаць не паспеў.

Пачакай, каб знянацку не ўпасці,
Пачакай, каб душу наталіць,
Каб убачыць сапраўднае шчасце
І з другімі яго падзяліць.

Kamunikat.org

## *СЛЕД*

Жыве душа, хоць як яна трывае?
За сем дзесяціголдзяў — столькі бед!
Але душа не толькі ледзь жывая,
А сіліцца яшчэ пакінуць след,

Няхай сабе нязначны, ледзь прыкметны,
Як знак бяды або як шчасця знак.
Бывае, што сляды і з апраметнай
Выводзяць нечакана на бальшак.

kamunikat.org

# І ЗАЦВІТУЦЬ САДЫ

Збалела сэрца ад бяды і шчасця,
І ад чужых, і ад сваіх пакут,
Таму не раз даводзілася ўпасці,
І над самім сабою правіць суд,

І патаемна пеставаць падзею
На лепшыя наступныя гады,
Што і мая душа памаладзее,
Як сыдзе снег і зацвітуць сады.

А можа, ўжо нічога і не будзе,
І не вярнуся больш ужо сюды.
Мой снег не сыдзе, але скажуць людзі:
«Ідзе вясна».
І зацвітуць сады.

Kamunikat.org

## *ЗУБРАНЯ*

Зуброў сягоння лічаць на адзінкі:
Зубры сышлі мільёнамі ў нябыт.
Сапе важак, і чутна, як ільдзінкі
У лужынераструшчвае капыт.

Сівы важак сапе гарачай парай,—
Ён уладар і таямніц, і чар:
Раўне здалёку і паспешна парай
Знікае за зубрыхаю ў гушчар.

Ён доўга аблюбоўвае сяброўку,
Ахоўнік, закаханы і баец...
Пасля у верас лягуць ці ў зуброўку
Ад шчасця і спакою захмялець,

Каб дачакацца гулкага світання
Таго, даўно загаданага дня.
Калі на ножкі першы раз устане
І новы век убачыць зубраня.

## ***ЗОРНА. ВЕТРАНА. ЗІМА***

За сняжынкамі сняжынкі
Паляцелі на палі,
За сцяжынкаю сцяжынкі
У юнацтва павялі.

Па гасцінцах Беларусі,
Каля снежных церамоў
У валёнках і ў кажусе
Я спяшаюся дамоў.

«Еду, еду. Поле, хаты,
Выязджаю на бальшак»...[1]

У сталіцу, як на свята,
Ехаў мой таварыш так,

Ехаў, марачы аб славе,
І ў бязвоблачныя дні
Ў старажытным Амсціславе
Запаліў свае «Агні»[2].

Спадзяваўся: «Ўдача будзе.
Што ж, бывай, мой гарадок..
І натхнёна у «Таўрыдзе»[3]
За радком снаваў радок.

[1] Радкі з верша Ю. Таўбіна.
[2] Назва першай яго кнігі.
[3] Паэма Ю. Таўбіна.

Kamunikat.org

Заклапочаны і рады
Усміхаўся ён вясне,
Вершы, часам пераклады
На хаду чытаў і мне.

Праляцела шчасце міма,
Слава бокам абышла,
Нечакана восень дымам
Той бальшак завалакла.

Я дамоў гасцінцам еду.
Зорна. Ветрана. Зіма.
Не відно юнацтва следу,
І сяброў даўно няма.

Kamunikat.org

## *ДВА ЛІСТЫ ПІМЕНУ ПАНЧАНКУ*

### *ПЕРШЫ ЛІСТ*

Да цябе не дазваніцца,
Бо ў спякоту, снег і ў дождж
Пад табою бліскавіцы
Б’юць упоперак і ўдоўж.

Верны ты сваім вытокам,—
Быў і будзеш, як спярша,
Бо заўжды твая пад токам
Неспакойная душа.

Ёй то горача, то зімна,
То яна агнём смыліць,
То жыццю складае гімны,
То бунтуе, то баліць.

Да тваіх далёкіх станцый
Рэйкі новыя гудуць,
А твае «прыстасаванцы»
Ўсе на пенсію ідуць.

Кожны дзень, як на паверцы,
Ты ўглядаешся у свет,
І нязменна ўдары сэрца
Правярае партбілет.

На узлёце і на ўздыме
Шчыры голас твой чуцён.
Будзь здаровы, мудры Пімен,—
Летапісец нашых дзён!



Kamunikat.org

## *АДКАЗ НА ЛІСТ*

Чую я бусліны клёкат,
Дзяцел дуб стары дзяўбе.
Значыць, лета недалёка,
Значыць, стрэну зноў цябе

На былых ласіных сцежках,
Што трыпутнік заглушыў,
І твая ізноў усмешка
Дакранецца да душы.

Каралішчавіцкім летам
Пройдзеш і здалёк кіўнеш,
Бо з вясны анахарэтам
І да восені жывеш.

Часам сэрца гулка б'ецца,
І няма каго карыць,
Што ніяк не удаецца
Нам з табой пагаварыць.

Што ж, жывём далёка дужа —
Ні даехаць, ні дайсці…
І якая толькі сцюжа
Нас разводзіць у жыцці?

Хоць бы зноў дажыць да лета,
Каб лясны сезон пачаць,
Каб, сустрэўшыся з паэтам,
Нам сумленна памаўчаць,

Каб яшчэ не раз у «ЛіМе»,
Або ў «Полымі» сустрэць
Нізку вершаў, што, як Пімен,
Будзе жыць і не старэць.

## *ЗЯМНАЯ ПРАПІСКА*

*Памяці Петруся Броўкі*

Пятрусь Усцінавіч, ты з намі, ты між нас,
Не на партрэце, а ў душы і ў сэрцы
Твой палымяны пагляд не пагас,
А твой радок не падуладны смерці.

Пятрусь Усцінавіч, даўно цвіце чабор,
Гудуць твае на рэках пераправы,
Пятрусь Усцінавіч, твае гады, як шторм,
Прайшлі не дзеля славы, а для справы,

Бо слава, як салёная вада,
Чым болей п'еш, тым болей мучыць смага,
Цябе ж чужая мучыла бяда,
Несправядлівасць, чэрствасць і няўвага.

Ты непрыяцелям абразы дараваў,
Ты захапляў усіх сваёю марай,
Ты дабратой нягодніка караў
І літасцю, як найвышэйшай карай.

Пятрусь Усцінавіч, палае твой касцёр
Паміж рабін, каля жывой крыніцы,
А ты ляціш, як зорка паміж зор,
І ўжо нідзе, ніколі не спыніцца.

Мы не чакаем ад цябе дэпеш
З Юпіцера, Венеры або Марса,
Бо ты як жыў, так і цяпер жывеш
На скрыжаванні Ленінскай і Маркса,

Жывеш у сэрцах, думах і дамах,
У шчодрым слове і у кожнай рысцы,
Жывеш у звонкіх песнях і ў тамах,
Жывеш па вечнай і зямной прапісцы.

Мінуць паводкі, спёкі, халады,
І паўтарацца ўсе ізноў дарэчы,
Як колісь, і ў наступныя гады
З табой не развітанні, а сустрэчы.

kamunikat.org

## *РАЗВІТАННЕ З КАРАЛІШЧАВІЧАМІ*

Надыходзіць развітанне,
Добры наш, утульны дом.
Тут і днём, і на світанні
Не адзін пісаўся том.

Тут яшчэ блукае Колас,
Паліць вогнішчы Лынькоў,
І чуцён натхнёны голас
Маладзейшых мастакоў.

Тут не замаўкае рэха
Рыфмаваных спарышоў,
Што, збіраючы арэхі,
Пазнаходзіў Куляшоў.

Пагу-ка-ю... Чую зноўку,
Як з праходкі да ракі
Сустракаюць песняй Броўку
І сініцы, і шпакі.

У пакоі чую звонкі,
Не для жартаў і пацех,
Гнеўны голас Макаёнка
І яго суровы смех.

Тут раман высокай пробы,
Што займае нават дух,
Дапісаў Мікола Лобан,
І... зямны замкнуўся круг.

І Дубоўка, мудрым дзедам
Зноў народжаны на свет,
Тут зімой, вясной і летам
Свой шукаў юнацкі след.

Хведаровіч часам жартам
Нам расказваў паміж спраў,
Як яго жыццё у карты
Нехта ледзь не прагуляў.

Кожны тут тварыў і марыў
Выйсці ў класікі хутчэй,
І шумелі семінары,
Быццам Пушкінскі ліцэй.

Вочы, постаці, аблічча
І сяброў, і несяброў,
Не прыпомніш і не злічыш
Тых дзівосных вечароў

Каля вогнішча ляснога,
Звонкіх песень да зары.
Але зорнаю дарогай
Разыходзяцца сябры.

Пакланюся ў пояс дому,
Што натхняў усіх гуртом,
Бо каля рачное стромы
Пас чакае новы дом.

Мы і там паходзім пешкі
Па валожынскай зямлі,
Толькі б тут ніколі сцежкі
Крапівой не зараслі.



Kamunikat.org

## *ПЕРАД ДАЛЬНЯЙ ДАРОГАЙ*

Відаць, на развітанне снег
Маю завейвае хацінку,
І вецер зносіць з белых стрэх
За чарацінкай чарацінку.

Я доўга лямпу не палю,
Каб дарам не сляпіла вочы.
Вазоны на акне палью
І буду пазіраць да ночы,

Як будзе маладзік свяціць
Над бальшаком у снежным пыле,
Як зорка ў змроку праляціць
І дагарыць на небасхіле.

Да болю любячы зямлю,
У дарогу дальнюю збяруся.
У поўнач лямпу запалю
І ў хату болей не вярнуся.

## *ПАЦЕРКІ*

Строфы — стропы парашута
Звяжуць думку з пачуццём.
Строфы — радасць і пакута,
Бо аплочаны жыццём..

* * *

Няхай насенне падае часцей
З маёй далоні ў даўнія траншэі,
Няхай шыпшына з макам расцвіце,—
І ўся зямля ізноў пахарашэе.

* * *

Мы сціплыя. І хваляць нас за гэта.
Хіба ж за сціпласць можна не любіць?
Але бывае нават, што паэты
Гатовы слова матчына забыць.

* * *

З пастановы масла не саб'еш,
Не спячэш ні драніка, ні хлеба,
Не засмачыш крупнік і кулеш,—
Малако, мука і сала трэба.

* * *

Палюбі мяне, старога,
Можа, стану зноў дужэй,
І супольная дарога
Здасца трошачкі даўжэй.

* * *

Чэрвень, чэрвень — чырванеюць вішні,
Ажно гнецца веццe і сукі.
І каштуюць кожны дзень увішнай
Ягады залётныя шпакі.

* * *

Такая цішыня. Прырода заміраe,
За лістам ліст сплывае па вадзе.
Такой парою і па нашым краі
Нячутнаю хадою снег ідзе.

* * *

Накувай ты мне, зязюля,
Хоць не многа — пяць гадоў,
Каб у квецені і ў гуле
Бачыць воблакі садоў.

* * *

Арытмія… Арытмія…
Гукі кволыя, нямыя,
Сэрца беднае хварэе,
Бо ні ямба, ні харэя
Не чутно ні ў воднай фібры.
Вінаватыя верлібры.

* * *

Расказваем, якімі будзем,
Як лепш зрабіць і дзе узяць,
А што казаць сумленным людзям,
Калі няма чаго сказаць?

* * *

Парайце, што выбраць і што мне рабіць,
Каго мне пакінуць, каго палюбіць.
І мне адказалі у тое ж імгненне:
«Спачатку пра гэта спытай у сумлення».

* * *

Я веру ў сны і веру ў прадчуванні.
Яны трывожаць і душу вярэдзяць:
Прысніцца бацька — будзе развітанне,
Што блізка гора — маці папярэдзіць.

* * *

Штогод выкрэсліваю адрасы,
Імёны, прозвішчы і тэлефоны,
І вочы вільгатнеюць ад расы,
Неспадзяванай і салёнай.

* * *

Вас па адным на грознай вахце
Скасіла лютая зіма.
Мае сябры, вы мне прабачце,
Што я жыву, а вас няма.

* * *

Навошта я прыйшоў у гэты свет?
Што я пакінуў па сабе нашчадку?
Святла іскрынку? Непрыкметны след,
Што мне здаваўся значным напачатку?

* * *

Я ўсё жыццё разгадваю загадку,
Які я, хто я, што раблю не так,
У чым ёсць лад, а дзе няма парадку,
А разгадаць не здолею ніяк.

* * *

Усё ляціць часамі дагары,
Аж плачуць і рагочуць чэрці,
А ты не бойся — праўду гавары,
Так, як гавораць за паўдня да смерці.

* * *

Усіх адною меркаю не мерце,
Што з намі і за намі ўслед ідуць.
Адны памруць адразу пасля смерці,
Другія на стагоддзі ажывуць.

* * *

Ліхая прага славы гоніць нас
На кручы, стромы і вяршыні,
Але стаіць няскораны Парнас,
А мы валтузімся ў нізіне.

* * *

Праўда з крыўдаю сышліся,
Як галубка з крумкачом.
Вочы жоўцю наліліся
Ў крыўды з вогненным мячом.



Kamunikat.org

* * *

Такую кашу долар заварыў,
Пачаў такі бейсбол фатальны!
Калі б Калумб дазнаўся, што адкрыў,
Ён па рамонт закрыў бы капітальны.

* * *

Паставіць на калені
Умеюць і цяпер,
Адвага ж без сумлення
Страшней, чым дзікі звер.

* * *

Найлепей крыўды даўнія забыць
Нам на парозе будучага веку,
Бо нават р о з у м  страшны можа быць
У галаве ліхога чалавека.

* * *

Магчыма, гэта і не нова,
Што слова — зерне на сяўбе,
А хто не любіць роднай мовы,
Той любіць толькі сам сябе.

* * *

Веру ў шчасце, толькі ў праўду веру,
У тую праўду, што у вочы рэжа.
Без веры ўсе дарэмныя намеры,
Без веры дня не пражывеш.

* * *

Мяркуем, як канцы з канцамі звесці,
Як апетыту паслужыць,
А трэба жыць не для таго, каб есці,
Патрэбна есці для таго, каб жыць.

* * *

Хоць адзін вузельчык туга
Ты на памяць завяжы:
«Каб нідзе не страціць друга,
Бескарыслівa дружы».

* * *

І я бываю часам нудны,
Бывае, што не сплю начэй,
Бо сам — суддзя і сам — падсудны.
Суджу, і робіцца лягчэй.

* * *

Я памыляўся, і не раз,
І вось такі прыпомніў сказ:
«Лягчэй бывае д’яблу памаліцца,
Чым нават раз у дружбе памыліцца».

* * *

Адзін іду ў туманным полі,
Галосіць вецер і гудзе.
Надзея, толькі ты ніколі
Не пакідай мяне нідзе.

***

Не кідай камень у суседа
І не гань яго нідзе,
Бо другі — сарвецца следам
І ўсамога пападзе.

* * *

Нам няма калі сустрэцца,
А ўстрывожыць страшны сон,
Усхвалёванае сэрца
Супакоіць тэлефон.
Каб трывогі ўсе спыніць,
Можна ноччу пазваніць.

* * *

Разумных служак толькі да пары
Трымаюць пры сабе гаспадары.

* * *

Не хочацца развітвацца са светам,
Але суцешыў колішні мудрэц,
Сказаўшы: «Як зіма ідзе за летам.
Так мае ўсё пачатак і канец».

* * *

Я госць у вас, а вы — гаспадары,
Належыць вам наступнае па праву.
Я вам у спадчыну пакіну не дары!
А важныя нясконченыя справы.



Kamunikat.org

* * *

Стаўляю- помнік тым,
Чыіх няма магіл,—
І грэшным, і святым,
Развеяным на пыл.

* * *

Мінае за зменаю змена,
Сплывае усё, як вада...
Ды раптам галосіць сірэна,
Што ў некага побач бяда.

* * *

Ён часта напрошваўся ў госці
І зручных знаёмстваў шукаў,
Хлусіў і ашукваў кагосьці,
А ўрэшце сябе ашукаў.

* * *

Зручней другіх вініць,
А не сябе няволіць,
Лягчэй забараніць,
Куды цяжэй дазволіць.
Такім высновам рад
Звычайны бюракрат.

* * *

Я буду жыць да той пары,
Пакуль жывуць мае сябры,
Калі ж апошні воблік мой забудзе,
Дык і мяне тады ужо не будзе.

* * *

Пацеркі знізаў на нітку.
Можа, больш яшчэ збяру.
Не пакіну іх у сшытку,—
Шчодра людзям раздару.

Kamunikat.org

# ***НАРА***

*Легенда*

I

Туман над возерам
і месяц, як пярсцёнак,
Гайдаецца да рання на вадзе,
Лагодны ветрык струнамі сасонак
На стромкіх кручах звоніць і гудзе.

Павольна хваля бераг падмывае,
З нябёсаў зоры падаюць на дно,
А ў змроку нехта плача, ці спявае,
Ці кліча, хоць нікога не відно.

Чарнее перавернетая лодка,
А недзе у аеры і ў трысці
Галосіць адзінокая лябёдка,
Што лебедзя ніяк ёй не знайсці.

Пад возерам плыве вянок Венеры,
Мігціць злавесны і крывавы Марс,
Упала знічка, і ў густым аеры
Гарачаю іскрынкай след пагас.

Дзявочы голас, чысты і далёкі,
То журыцца, то радасна звініць.
Здаецца — прыпыніліся аблокі.
Каб месяца і зор не засланіць.

На песню азываецца лябёдка,
Хоць і з крылом параненым сама,

Хоць шчасце удваіх было кароткім,
Бо грымнуў стрэл і...
лебедзя няма.

А ў песні дзеўчыны —
любоў, надзея, мара
Шчымлівай перавітыя тугой,
Бо кожны вечар сустракае Нара
З дарогі нарачонага свайго.

Ударамі шырокага вясла
Лявон з апошняй сілы гоніць човен,
Што рыбаю для панскага стала,
Нібы іскрыстым срэбрам, повен.

За чоўнам — зіхатлівая дарожка:
Лявон дамоў спяшаецца раней,
А там у Нары вочы, як валошкі,
І вусны за маліны чырваней.

Блакітны месяц вынырнуў з-за хмары,
Вясло на пенных хвалях аж гудзе.
А ўброд насустрач радасная Нара
Бяжыць і ловіць зоры на вадзе.

Яны пераліваюцца ў далоні,
І пырскі зіхацяць у валасах.
Смяецца Нара і крычыць:
«Лявоне,
Лаві мой самы дарагі пасаг!»

Пасля ім не расстацца да світання,
А побач, у чаромхавым гаі,
Пра самае шчаслівае каханне
Спяваюць ашалела салаўі.

kamunikat.org

## II

Кароткая ноч на купалле,
Купальская ночка адна,
І зоры, нібыта каралі,
У небе дрыжаць давідна.

На сэрцы і светла, і млосна,
І толькі ніяк не знайсці
Сцяжынку ў алешніку росным,
Дзе папараць мае цвісці.

Здалёк светлякі, нібы чары,
Мільгаюць,
знікаюць,
гараць
І клічуць употайкі Нару
Купальскія кветкі збіраць.

Сыходзяцца хлопцы.
Памалу
Дзяўчаты, як павы, ідуць,
Звіняць на ўзбярэжжы цымбалы,
І ўжо карагоды гудуць.

Спяваюць: «Купалле! Купалле!»
Гукаюць: «Лаві! Дагані!»
Здаецца, па бераг упалі
З нябёсаў жывыя агні.

Яны узняліся высока
У змроку і ў зрэнках вачэй,
І пахнуць малінавым сокам
Сцяжынкі купальскіх начэй.



Kamunikat.org

Па лесе расходзяцца пары
Чароўныя кветкі збіраць...
Лявону ўсміхаецца Нара,
І шчокі, і вусны гараць.

Збіраюць званочкі, шыпшыну,
Рамонкі, чабор, васількі,
І кожная ўпотай дзяўчына
На хвалі пускае вянкі.

Яны то сыходзяцца ў пары,
Гайдаюцца, то не відно.
Вяночак шчаслівае Нары
Спыніўся і кануў на дно.

Над возерам пелі дзяўчаты,
Скакалі хлапцы праз агонь...
Ды раптам па звонкаму святу
Ударыў падковамі конь.

На ім у сядле з аксаміту
Куртаты, надзьмуты, як сыч,
Паперадзе грознае світы
Прыехаў вяльможны паніч.

— Чаго ж вы замоўклі, галганы?!
Ну, хто пераскочыць касцёр?
Пацешце вяльможнага пана,
А заўтра прыходзьце у двор

Парадаваць кволую пані:
Папець, паскакаць пад акном...
Каго там хаваеш, галгане? —
Гарланіць сівы аканом.


Kamunikat.org

Паніч пазірае. Пад клёнам
Прыгожая, кроў з малаком,
Дзяўчына стаяла з Лявонам,—
Прыдворным яго рыбаком.

Пад’ехаў. Пытае ласкава:
— А як цябе, любая, зваць?
Дык ты гэта ходзіш, як пава,
І ўмееш салоўкам спяваць?

— Мая нарачоная Нара,—
Адказвае папу Лявон.
— Табе яна, хлопе, не пара.
Пусці яе зараз жа!.. В-о-о-н!!!

Лявон прытуліўся да Нары:
— Не гневайце, пане Адам.
Любую прыдумайце кару,
А дзеўчыну вам не аддам.

— Спрачаешся, д’ябал лазаты?!
Забыўся пра ласку маю?
Узяць яго!
Здаць у салдаты!
А то ў сутарэнні згнаю.

Бізун засвістаў, і чырвоны
Шчаку перакрэсліў рубец.
Ахова скруціла Лявона...

— Ну, вось і пайшоў... пад вянец,—
Ускрыкнула Нара. А страта
Няшчаснай дыхнуць не дае.
Жалобай зрабілася свята,
Салдатам — каханы яе.

III

Паніч замкнуў, нібыта звера,
Дзяўчыну у пакой пусты.
— Калі адумаешся, веру,
Ласкавай зробішся і ты.

Служанак будзеш мець і світу,
Хадзіць у дарагіх шаўках,
Насіць сукенкі з аксаміту
І бранзалеты на руках.

А Нара ўсё маўчыць зацята,
Не слухае, што кажа ён,
Бо ў думках толькі —
маці, тата
І любы страчаны Лявон.

Пасля змірылася паволі,
Адзела дарагі убор,
І ёй тады паніч дазволіў
Выходзіць без нагляду ў двор.

Глядзела Нара:
за аблокі
Ляцелі лёгкія буслы,
І з гулам возера далёка
Каціла пенныя валы.

За сценамі, у чыстым полі
Красуе жыта, ветрык дзьме,
А тут —
няволя у няволі
У пазалочанай турме.

Ні днём ні ноччу ёй не спіцца,
Палац і панскі стол не міл...
Ударыў гром, і бліскавіца
Счарнелы хрысціць небасхіл.

«Пара, пара»,— гаворыць Нара,
Пакуль ні месяца, ні зор,
З каміна выкаціла жару
І... падпаліла свой убор.

Гараць фіранкі і шпалеры,
Падлога, шафы і сцяна.
З крутога полымя праз дзверы
Паспела выскачыць яна.

Палац палае, быццам свечка,
Здалёку полымя пячэ,
А побач вузенькая рэчка
Праз двор у возера цячэ.

Пад ёю ледзь курыцца пара,
Вада, здаецца, ўся ў агні.
Імгненна кінулася Нара
У хвалі рэчкі з вышыні.

І выплыла...
Стаіць па ўлонні.
Палае чорны небасхіл,
Ды раптам чуе —
коні, коні
Ляцяць услед.

З апошніх сіл
Бяжыць на стромкі бераг Нара,—
Адчай і гора у душы,

Бо свішчуць і блішчаць у хмарах,
Нібы маланкі, палашы.

Храпуць запаленыя коні,
Зіхціць па стражніку мундзір...
Які ж ратунак ад пагоні?
І Нара кінулася ў вір.

І знікла.
                    У пякельным гуле
Пад пенай хваль каціўся гром,
І доўга белая кашуля
Мільгала вогненным крылом.

Палац датлеў.
                    Сляды пажару
Даўно развеялі вятры.
А на купалле клічуць Нару
Яе сяброўкі і сябры.

І часам чуюць крык кароткі
То з паднябесся, то са дна,
Гавораць, голасам лябёдкі
Цяпер адказвае яна.

IV

Ссівелы, з выпраўкай салдата,
Па беразе самотны дзед
Глядзіць удалеч і зацята
Усё шукае нейчы след.

А там даўно шумяць ракіты,
За лістам жоўты ліст ляціць,

Па возера палац забыты
Пустымі вокнамі глядзіць.

Макрыцай зараслі выжары,
У вежах кажаны снуюць,
А возера, дзе знікла Нара,
Спрадвеку Нараччу завуць.

kamunikat.org

## ЛІРЫЧНЫ БОЛЬ

*Дыялог*

— Чаму настроіў ліру
На гумар і сатыру?
Нашто па раны сыплеш соль?
— Бо гэта наш агульны боль.
— Зажмурся лепш і памаўчы,
Каб добра спалася ўначы.
— Не, не сцярплю і не змаўчу,
І ў сне ад болю закрычу:
«Перад хлуснёй сагнуць калені
Не дазваляе мне сумленне.
Таму настроіў ліру
На гумар і сатыру».

Kamunikat.org

## *ЁН УЖО НЕ ЁН*

На сходзе ўсе мы, як адзін, хацелі
Таварыша падняць на вышыню,
Каб добры быў парадак у арцелі,
Абралі мы яго за старшыню.

Не памыліліся, бо ён на першым часе
Быў гаварыць і кіраваць мастак.
Часамі заўважаў сяброў у масе,
А з цягам часу увайшоў усмак:

Прыкідваўся, што да вушэй заняты,
Ідзе з начальствам — нават не кіўне,
Але з трыбуны сыпле, як наняты,
Пра ўвагу, як гарохам па сцяне.

Схіляўся перад кожным імянітым,
Руку заўжды дзвюма рукамі трос,
І пакрысе да сытнага карыта,
Хоць і з краёчку, а і ён прырос.

Усё ён ведаў да апошняй кропкі,
Хоць на рабоце поўзаў, нібы рак,
Правалы прызнаваў за «недаробкі»,
«Дэфектамі» лічыў суцэльны брак.

Няма тут незвычайнага нічога,
Што ён яшчэ у «сферах» існуе,
Што блізкім пераходзячы дарогу,
Сваіх былых сяброў не пазнае.



kamunikat.org

І вось мы ўсе ізноў сышліся ў зале
Пасля вясёлых навагодніх дзён,
Але свайго абрацца не пазналі
І вырашылі: ён ужо не Ён.

kamunikat.org

## *НОВАЯ ФАРМАЦЫЯ*

Ён такі сучасны, статны:
Сам выходзіць з-за стала
І пытае далікатна:
«Як здароўе?», «Как дзяла?»

Ад світання да змяркання
У канторы на віду
Ўсе складаныя пытанні
Вырашае на хаду.

Вырашае, вырашае,
Але ўсё стаіць «вапрос»,
А пасля перапрашае:
«Палучыўся перакос».

Ўсе яго ў канторы хваляць:
«Ну ж і мілы, ну й харош!
Абяцае, зубы скаліць,
А не зробіць ні па грош».

## *«ДАЙ» І «НА»*

«Дай» і «На» гучаць, як «Дайна»,
Але сумная яна,
Бо часцей гавораць: «Дай нам»,
Вельмі рэдка кажуць: «На».

Напачатку просіць соску,
А падрос, і ўжо крычыць,
Што няёмка стала ў вёску
Прыязджаць на «Масквічы».

От каб «Волгу», або «Татру»,
Ці, нарэшце, «Жыгулі».
Але вось бяда,— за татам
Кампаньёны загулі.

А яму давай дублёнкі,
Хоць украдзь, хоць галадай,
А каўпер для новай жонкі
З норкі хоць жывой здымай.

А папросіш — анямее
І як полымя гарыць,
Бо з пялёнак не умее
«На» дагэтуль гаварыць.

Kamunikat.org

## ***ЧУЖАЗЕМАЧКІ***

Скажы мне, дружа паважаны,
Адкуль, магчыма з-за мяжы,
З’явіліся Анджэлы, Жаны
У  вёсцы Новыя Гужы?

Яны грызуць з усімі семкі,
А, ідучы ў дзіцячы сад,
Маленечкія «чужаземкі»
Суседскіх не мінаюць град.

Скажы мне, дружа, дзе пачулі,
Адкуль імёны узялі
Малапісьменныя бабулі,
Што век насілі мазалі?

А мамы — Волькі і Антолі,
Сваіх шкадуючы дзяўчат,
Баяцца, каб на іх у полі
Не пырснуў дождж, не ўдарыў град.

І пестуюць яшчэ зялёных
Сваіх Анджэлачак яны,
Каб тыя нават па імёнах
Не нагадалі даўніны.

А на таках, у едкім пыле,
На фермах у світальны час
Алены, Ганны і Марылі
Не спяць, шчыруючы за нас,

І не цураюцца нічога:
Капаюць бульбу, вершаць стог,
Бо едакоў у іх замнога,
І толькі хлеб — адзіны бог.

kamunikat.org

## *БАРБОС*

На сметніках суседняга двара
Барбос выгульвае свайго гаспадара:
Вядзе за хлеў па снежнай горцы
На доўгай сырамятнай шворцы.
І гаспадар, даўно ссівелы дзед,
За ім, як хлопчык, бегае услед,
А ўвесну водзіць на світанні
Барбоса на амурныя спатканні,
Пасля дрыжыць ад ветру на рагу,
Пакуль Барбос не задзярэ нагу.
Жыве Барбос у калідоры гулкім
І двойчы ў дзень выходзіць на прагулкі,
Пазбаўлен права голасу ў кватэры,
І толькі буркне, калі рыпнуць дзверы,
Бывае, на чужым двары пабрэша,
Аб слуп аблезлы бок пачэша.
Ён трапіў на забаву шчанюком,
Але запомніў добра іншы дом
На ўскраіне далёкага сяла,
Які начамі маці сцерагла.
Яна брахала і на месяц выла,
А у нагах была такая сіла,
Што ад яе праз ямы і карчы
Не мог ні воўк, пі заяц уцячы.
Яна з гаспадаром хадзіла ў поле
І добра знала, што такое воля,
Бо гаспадар быў лепшы друг,—
Не браў яе ніколі па ланцуг,
Яе і дзеці, і гаспадары
Лічылі гаспадыняй на двары,—

Яна гарод і хату пільнавала,
А сып яе ляжыць, нібы завала,
У калідоры да кута прырос,
Аглух, асіп і выліняў Барбос,
І часам сніць да гэтае пары
Прасторны двор і хлеў стары,
У шэрані пад хатай голле,
І уздыхае: «Што такое во-ля?»
А заўтра зноў па сметніках двара
Ён павядзе гуляць гаспадара.

kamunikat.org

## *ЧЫТАЛЬНІКІ*

Навошта мы часамі хлусім
І нават хвалім пакрысе,
А то і захапляцца мусілі
Тым, хто банальшчыну нясе?

І апладзіруем спакойна,
Няшчырую хвалу пяём,
А думаем, што непрыстойна
Чытаць чужое за сваё.

Няхай бы той, хто гэта піша,
Хто дні і ночы каратаў,
Сам па сабе на людзі выйшаў
І так як трэба прачытаў.

kamunikat.org

## *БЕЗ ЧАРГІ*

Паўзе з любой нагоды
Крывая, як дуга,
І вытрымку заўсёды
Выхоўвае чарга.

Маўчы, чытай газету,
Хоць і баліць нага,
Затое маеш мэту,
А да яе — чарга.

Маўчы і стой да зморы,
Але ж тавар які!
У снежні — памідоры,
У лютым — агуркі.

Чарга і па кватэру,
Чарга ў дзіцячы сад.
І за двайныя дзверы
Выстойвай,— рад, не рад.

Мы ў чэргах, як у штаце,
Штодня стаім усе.
І колькі год патраціў
З нас кожны у чарзе?

Чарга не стала раем,
Бо хвост яшчэ даўгі.
І толькі паміраем
Без блату і чаргі.



Kamunikat.org

## *ПРЫЗНАННЕ АЎТАРА*

Ну, а колькі па душу
Прыпадае ў пас паэтаў?
Хоць, прызнацца, сам грашу
Я пляцёнкамі санетаў.

Складным вершам апішу
Ўсё, што ўбачу, ўсё, што здасца,
Толькі разгадаць душу
І сваю наўрад ці ўдасца.

Кніжкамі забілі мы
І прылаўкі, і паліцы,
Вершаў плесняюць тамы
І раманаў стос пыліцца.

Лічым знаўцамі жыцця
Мы сябе на ўсіх старонках.
Нашы «ісціны» дзіця,
Пэўна, ведала ў пялёнках.

Праўда, ёсць яшчэ чытач,
Што прыкінуцца умее,
Быццам мовы, хоць ты плач,
Матчынай не разумее.

Ганіць класікаў сваіх,
Не чытаючы, аблыжна,
Т купляе замест іх
Ўсё, што модна і прэстыжна.

Каля вокан і вітрын
Мы праходзім шпаркім крокам,
Бо здалёку магазін
Сустракае нас папрокам.

Kamunikat.org

# *НАЗІРАННІ*

## *МЕМУАРЫСТ*

Дайце толькі больш паперы,
Я і словам не схлушу,—
Пра Шэкспіра і Гамера
Успаміны напішу.

## *ПЕРСПЕКТЫЎНЫ*

Паэт, каб не застацца ззаду,
Запяць спяшаецца пасаду,
Тады ўсе збудуцца жаданні —
І слава будзе, і выданні.

## *ПАЧЫНАЮЧЫ*

Пайшоў на пенсію, ды спакусіла муза:
Паэму вырашыў пачаць
Т грукае ў прыёмную Саюза:
«Я — пачынаючы!»
Хоць час даўно канчаць.

## *СУМЛЕННЫ*

У вершах заклікае да сумлення
Сваё і маладое пакаленне,
У розных ракурсах свае друкуе здымкі,
А сам начамі строчыць ананімкі.

За вочы бэсціць, дзёгцем мажа
І несусвеціцу нясе,
А стрэне — кампліменты кажа
І доўга дзве рукі трасе.

## *ЛЮБІМЕЦ*

Гавораць: «Вы — любімец мас»,
Бо ўсе за вамі ходзяць ззаду,
Хоць, шчыра кажучы, не вас,
А любяць вашую пасаду.

## *ДА АЎТОГРАФА НА КНІЗЕ*

Вы напісалі: «Не судзіце строга».
Я дружбаю заўсёды даражу.
Магу змаўчаць пра некага другога,
А другу ўсё, што думаю, скажу.

Kamunikat.org

# *ЗВОНКІ РАДОК*

П е р а к л а д ы

*Сальецца з навукай дакладнай*
*Паэзіі звонкі радок.*

*В. Шэфнер*

kamunikat.org

## З рускай мовы

### ***Аляксандр Пушкін***

#### ***МУЗА***

Яна мяне з маленства палюбіла
І сяміствольную жалейку мне ўручыла,
З усмешкай слухала ў шчаслівыя хвіліны,
Калі адтуліны пустое чарацiны
Ад кволых дотыкаў мае рукі запелі,
І гімны боскія натхнёна зазвінелі,
І песні мірныя фрыгійскіх пастухоў.
Да змроку з раніцы пад шатамі дубоў
Старанна слухаў я дзівосныя урокі
Таемнай дзевы яснавокай,
Змахнуўшы пасмы валасоў з чала,
Сама з маёй рукі жалейку узяла,
Запеў чарот ад боскага дыхання,
І сэрца захапіў прыліў зачаравання.

1821

#### ***СПАЛЕНЫ ЛІСТ***

Бывай, кахання ліст! Яна мне загадала.
Марудзіў доўга я! Бо сілы не ставала
Аддаць агню ўсе радасці мае,
Але пара нарэшце настае.
Гатовы я; палае ліст кахання,



Kamunikat.org

Т я гляджу, стрымаўшы хваляванне,
Як ліжа полымя пажоўклыя старонкі.
Хвіліна!.. Запалалі! З дымам тонкім
Плыве, губляецца маё маленне,
Пярсцёнка вернага знікае уяўленне —
Кіпіць растоплены сургуч, густы.
Скруціліся сатлелыя лісты,
На попеле бялее след чарніла.
Палаюць грудзі болем. Попел мілы,
Будзь суцяшэннем, дай мне сілы,
Прыстань павек да змучаных грудзей...

1825

## *ЖАДАННЕ СЛАВЫ*

Калі, захоплены каханнем і пяшчотай,
Укленчыўшы, я на цябе употай
Глядзеў і спадзяваўся: ты мая,—
Ты знаеш, мілая, ці прагнуў славы я:
Ты ведаеш, выгнаннік з ветранага свету,
Самотны, я залічаны ў паэты,
Стамлёны бурамі, заўсёды адзінокі,
Прымаў аднолькава хвалу і ўсе папрокі
І не зважаў на свецкія прысуды,
Калі твой вобраз адкрываў мне цуды,
І дотык твой да галавы імклівы,
І ціхі шэпт: кахаеш, ты шчаслівы?
Другую, як мяне, кахаць не будзеш?
Ты, друг, мяне ніколі не забудзеш?
А я, разгублены, маўчаў ад хвалявання,
Я асалодай жыў і светлым спадзяваннем,
Што ў будучым жахлівы дзень разлукі
Нас абміне. А ўрэшце? Слёзы, мукі,



Kamunikat.org

Паклёп і здрада на душу маю
Абрынуліся... Што ж я, дзе? Стаю,
Як падарожны ў пекле навальніцы,—
Пустыня, змрок, няма дзе прытуліцца.
Цяпер жаданнем новым повен я,
Я славы прагну, каб маё імя
Гучала з кожных вуснаў несупынна,
Каб чула ты яго штодзённа, штохвілінна,
Каб чуткі пра мяне гучалі дзень пры дні
У тлуме свету і у цішыні,
Каб ты прыпомніла маленне да світання
І сад начны ў хвіліну развітання.

1825

## ***К...***

Я помню дзіўнае імгненне:
Перада мной узнікла ты,
Яе лёгкі прывід захаплення,
Як геній чыстай пекнаты.

У безнадзейны час, самотны,
Калі пустых трывог стае,
Гучаў мне голас твой пяшчотны
І рысы сніліся твае.

Гады міналі. Шторм грымотны
Развеяў мары назаўжды.
Забыў я голас твой пяшчотны,
Нябесны воблік і сляды.

У змроку доўгага выгнання
Міналі дні без пачуцця,



Kamunikat.org

Без захаплення, хвалявання,
Без слёз, кахання і жыцця.

Душа ускрэсла ад самоты,
І вось ізноў узнікла ты,
Як лёгкі прывід пералётны,
Як геній чыстай пекнаты.

І сэрца б’ецца ў захапленні,
І для яго ўваскрэслі зноў
Нябесны вобраз, і натхненне,
Жыццё, і слёзы, і любоў.

1825

### ***РАЗВІТАННЕ***

Апошні раз твой вобраз мілы
Спрабую думкамі абняць,
Будзіць любоў сардэчнай сілай,
З пяшчотай кволай і panылай
Тваё каханне ўспамінаць.

Бягуць, знікаюць нашы леты,
Змяняючы усё і нас.
А ты ўжо для свайго паэта
Магільным холадам адзета,
Ён для цябе, як znічка, згас.

Прымі ж, сяброўка, развітанне
Ад сэрца шчырага майго,
Нібы ўдава у час расстання,
Як друга, абняла ў маўчанні
Перад зняволеннем яго.
1830



Kamunikat.org

***Сяргей Ясенін***

## ***ЛІСТ ДА МАЦІ***

*Т*ы жывеш яшчэ, мая матуля?
Я жывы, і шлю табе паклон,
І няхай і ў змрок святлом атуліць
Нашу хату адзінокі клён.

Пішуць мне, што тоячы трывогу,
Ты засумавала без мяне,
Што выходзіш часта на дарогу
У сваім старэнькім каптане.

Не журыся ты на кожным кроку
І душу дарэмна не трывож,
Што нібыта мне ў атрутным змроку
Нехта увагнаў пад сэрца нож.

Родная, дарэмна! Супакойся,
Гэта толькі трызніцца ў журбе.
Не загіну я, нібы прапойца,
Болей не пабачыўшы цябе.

Я, як і даўней, такі ж ласкавы,
Толькі мару, каб з мяцежных стром
І ад мітусні агорклай славы
Зноў вярнуцца ў нізенькі наш дом.

Можа, я вярнуся на змярканні,
Калі квецень наш пабеліць сад,
Толькі ты мяне ўжо на світанні
Не будзі, як восем год назад.

Не будзі таго, што не збылося,
Што паспела ў марах адцвісці.
Вельмі ж рана страты давялося
Мне сустрэць у блытаным жыцці.

І маліцца не вучы. Ні бога,
Ні анёлаў,— як і не было.
Толькі ты — адна мне дапамога,
Толькі ты адна — маё святло.

Дык забудзь ранейшую трывогу,
Не журыся вельмі без мяне,
Не хадзі так часта на дарогу
У сваім старэнькім каптане.

* * *

Не шкадую, не заву, не плачу,
Пройдзе ўсё, як з белых яблынь дым,
Пазалотай восені пазначаны,
Я не буду болей маладым.

Сэрца, прадчуваючы пагрозу,
Ты мяне дарэмна не трывож,
І краіна ў паркалі бярозак
Не завабіць бегаць басанож.

Дух бадзяннняў не вядзе ў бязмежжа.
Вусны у палоне забыцця.
О, мая растрачаная свежасць,
Жар вачэй, паводка пачуцця.

Я цяпер скупейшы на жаданні.
Ты, жыццё, мяне не абміні.

Быццам я вясновым гулкім раннем
На ружовым праскакаў кані.

Кожны з нас усё ж ідзе да скону,
З клёнаў медзь ліецца дагараць...
Будзь жа на вякі благаславёна,
Што прыйшло цвісці і паміраць.

* * *

Ліст за лістам гайдаецца, падае,
І захмараны вецер аглух.
Хто мне сэрца парадуе?
Хто яго супакоіць, мой друг?

Пазіраю з цяжкімі павекамі
Я па месячную вышыню.
Вось і пеўні закукарэкалі
У вераснёвую цішыню.

І дасвецце. Сіняе, ранняе.
Толькі зоркі па золку ляцяць.
Загадаць бы якое жаданне,
Ды не ведаю, што загадаць.

Што шукаць пад жыццёвай парошаю.
Праклінаючы лёс свой і дом?
Я хацеў бы цяпер харошую
Бачыць дзеўчыну пад акном.

Каб з вачамі яна васільковымі
Не камусьці,
А так, як даўней,

І пачуццем, і полымі словамі
Сэрца толькі суцешыла мне.

Каб пад месяца срэбнымі струпамі
Лёс шчаслівы мяне ўратаваў,
Каб над песняй я не бедаваў,
І з другімі, вясёлымі, юнымі
Больш мінулага не шкадаваў.

* * *

Я спытаў сягоння у мянялы,
Што дае за паўтумана па рублю,
Як сказаць мне для цудоўнай Лады
Па-персідску «Я цябе люблю»?

Я спытаў сягоння у мянялы
Ціха, так, як хвалі шапацяць.
Як мне для такой цудоўнай Лады
Пацалунак ласкавей назваць?

І яшчэ спытаў я у мянялы,
Затаіўшы сціпласць удвая,
Як сказаць мне для цудоўнай Лалы,
Як сказаць ёй, што яна мая?

Адказаў мяняла мне каротка:
Пра каханне нельга гаварыць,—
Закаханы уздыхне салодка
Так, што погляд яхантам гарыць.

Пацалунак назвы ў нас не мае,
Ў пацалунка свой і смак, і пах,

Пацалунак, быццам ружа ў маі,
Растае пялёсткам на губах.

Ад кахання не даюць зарукі,
Ведаюць з ім гора і бяду.
«Ты — мая» ёй толькі скажуць рукі,
Што зрывалі чорную чадру.

## ***КАПІТАН ЗЯМЛІ***

*(Урывак)*

Яшчэ ніхто
Не кіраваў планетай,
І не спяваў
Нікому гімнаў я.
Ды толькі ён
Узняў руку над светам,
Сказаўшы: «Свет —
Адзіная сям'я».

Я не захоплен
Гімнамі герою,
Не трапячу
Крывяправодам жыл,
Але шчаслівы,
Ш то глухой парою
Адным пачуццем з ім
І дыхаў я,
І жыў.

Не толькі нам,
Якім усё так блізка,
А стала зразумела



Kamunikat.org

Ўсім жывым,
Што сціплы хлопчык
З горада Сімбірска
Стаў у сваёй Краіне
Рулявым.

Між гулу хваляў
У сваёй расчыстцы,
Увесь дабра
Суровага парыў,
Ён многа мысліў
Па-марксісцкі,
Зусім па-ленінскі
Тварыў.

kamunikat.org

***Міхаіл Дудзіч***

## ***ХВІЛІНА МАЎЧАННЯ***

Калі жывыя прамаўчаць,
Загінуўшыя закрычаць.
Насустрач грознаму жніву
Яны ляцяць цераз Няву,
Цераз Няву і на Берлін
Праз шквал агню і гул ільдзін,
На левы бераг з бою ў бой,
І захлынаюцца крывёй,
Сабою месцячы дарогі,
Наводзячы масты да Перамогі.
Цаною ўласнага жыцця
І не даруюць забыцця.
Палае памяці агонь,—
Гарыць душа, сівее скронь.
Не збыцца заўтрашняму дню
Без учарашняга агню.
Пра гэта мёртвыя крычаць,
Калі жывыя прамаўчаць.

***

Свет акрыяў даўно ад страт,
І зорна зноў, і росна.
Хай будзе сейбітам салдат,
Пакуль яшчэ не позна.

Хай сонца льецца на палі
Ад краю і да краю,
Жыццё красуе на зямлі,
Пакуль Зямля жывая.

Зямля,— твой дом на віражы,
Т дзеці, і каханне,
Не ты працай беражы
І песняй па світанні.

Хай умалотны будзе плён,
І колас кожны ў полі,
Пакуль бяссмерце новых дзён
І вера ў нашай волі.

## ***ПЕРАД ПОМНІКАМ АЛЬБЕРТУ ЭЙНШТЭЙНУ Ў ВАШЫНГТОНЕ***

Адзін, у роздуме вялікім
Альберт Эйнштэйн акамянеў,
Нагадваючы змрочным лікам
Неразуменне, боль і гнеў.

Нібы атручаны ў запале
Перад ударам напавал,
Як леў, якога ашукалі
І пакалечыў канавал.

Глядзіць, навукаю прыкуты,
Нібыта Праметэй без сіл,
А ў зрэнках — гора і пакуты,
І грэх наступных Хірасім.

Kamunikat.org

Глеб П а гіраў

## *ПРАЎДА*

Праз сотні кіламетраў і кварталаў
Дайшоў твой голас да мяне ў Маскву.
«Ну, як жывеш? Што робіш?» — запытала.
І я схлусіў, што лепш за ўсіх жыву.

Я не сказаў, што ў неспакойным свеце
Маё жыццё дыміцца каганцом.
Пасля твайго ад'езду ўсе суседзі
Мне спагадаюць, лічачы ўдаўцом.

Так і ў вайну было. Хоць сэрца ныла,
Цярпелі мы, каб слёз не паказаць,
Пра болі, і страты, колькі хопіць сілы,
Ні слова, ні паўслова не сказаць.

У ледзяной зямлянцы, ў змроку шэрым,
Ледзь адагрэўшы рукі над агнём,
Хлусіў я пра зімовыя кватэры,
Пісаў табе, што хутка адпачнём,

Што я здаровы, што харчоў багата,
А ты і здагадацца не магла,
Што не бывае у жыцці салдата
Спакою, адпачынку і цяпла.

І не было у тваіх лістах ні слова
Пра боль і гора горада-байца.
Пісала толькі,— добра ўсё, здарова,
І так заўжды, спачатку, да канца.

І я не мог даўмецца пра спагаду
З ліста, што ты мне пераслаць змагла,
Што і ў цябе ў смяротную блакаду
Даўно няма ні хлеба, ні цяпла.

### ***МЕМУАРЫ***

Мы дзённікаў па фронце не вялі,
Але, прайшоўшы праз усе пажары,
Па памяці, сумленна, як маглі,
Салдаты напісалі мемуары.

Гартай старонкі часу і баёў,
Пакуль баляць і раны, і парэзы,
Праз гімнасцёрку праступае кроў
І на далоні плавіцца жалеза.

kamunikat.org

***Вадзім Шэфнер***

## ***ПАЭЗІЯ***

Пам дорачы радасці песні,
Забыўшы спакой і начлег,
Яна без датацый і пенсій
Ступіла ў наш атамны век.

Няхай электроннаму зроку
Усё падуладна даўно,
А сутнасць убачыць глыбока
Здалее мастацтва адно.

Дакладна разлічаны робат
Памножыць усё найхутчэй,
І толькі паэзіі вопыт
У сэрцы па жылах цячэ.

У працы нястомнай, суладнай
У светлы і вечны паток
Сальецца з навукай дакладнай
Паэзіі звонкі радок.

## ***МІРНАЯ НОЧ***

Не ўяўляю,— ці за садам,
Ці за гэтаю сцяной
Хтосьці стукам, мерным ладам
Усё ваюе з цішынёй.



Kamunikat.org

А магчыма, сэрца гэта?
Можа, кроплі за акном?
Ці гучыць уся планета,
Як блакадны метраном?

Ціхі гук, зусім не новы,
Не заўжды хвалюе нас,
Але крыллем кажановым
Ноч махае у адказ.

Не забыцца моцным сном бы,
Бо пад ложкам і маім
Свет ціктакае, як бомба
З механізмам завадным.

### *СТРАЛА*

Жадаў я смерці не арлу,
А ў ранняй маладосці
Я ў друга выпусціў стралу
Несправядлівай злосці.

І прамахнуўся. Нам дваім
Усё ж пашанцавала,
Але страла са злом маім
Пад полем прасвістала,

Ляціць праз лес, звініць, як сталь,
Б’е ў гарадскія сцены,
Зрывае з акіянскіх хваль
Клакі густое пены,

Kamunikat.org

Свідруе лівень і пургу,
Палацы і саборы
І, не губляючы вагу,
Усе працінае горы.

Страла з маёй старой віны
V маю ляціць даліну,
Каб, абагнуўшы шар зямны,
Упіцца мне у спіну.

* * *

Будуюць, аж у неба лезуць,
Аздабляюць дабрабыт.
Хутка з бляхі і жалеза
Ўсю Зямлю накрые шчыт.

Ды пакуль што ў гэтым свеце
Ёсць не толькі гарады,
Ёсць світанні з росным вецццем,
Звон крынічнае вады.

Ёсць яшчэ жывыя рэкі,
Жаўрукі ўзлятаюць з меж.
Радуйся, што ў гэтым веку,
А не ў будучым жывеш.

***Сяргей Давыдаў***

## *ДЗІЦЯ*

Везлі нас па вячэрняй дарозе,
Што знікала кудысьці ў лясы,
І пачулі раптоўна ў трывозе
Стогны, крыкі, гудкі, галасы.

На дарозе застылі машыны,
Мітусіліся ўсе па баках,
І дзяўчынку чарнявы мужчына,
Ледзь жывую, трымаў на руках.

Суцяшаў і здаваўся вясёлым:
— Мячык цэлы,
Не бойся, не плач...
Ну навошта ты бегла пад колы?
Пацярпі. Зараз з’явіцца ўрач.

А яна, пазіраючы ў неба,
Ціха-ціха сказала усім:
— Гаварыць толькі маме не трэба,
Мне цяпер не балюча зусім.

З малаком, пэўна, сіла такая
І з цяплом мацярынскіх вачэй
Увайшла ў нас, што боль адступае,
Каб было толькі маме лягчэй.

Я ў блакадным шпіталі не хлеба,
А сястрычку прасіў нездарма:
— Гаварыць толькі маме не трэба...

Я не ведаў, што мамы няма.

***Якаў Хелемскі***

## ***ХЛАПЧУКІ***

*З паходнага блакнота*

I

У Стоўбцах, дзе стражніцы дах
Непадалёк пустое гміны,
У хлапчука ў худых руках
Звінела тонкая хлудзіна.

Хлапчук адразу смелы стаў.
І месца ж выбраў для забавы!
Махаў хлудзінай і свістаў
Над вільчыкам былой заставы.

Ён спрытна голуба ганяў,
А той збіраўся прызямліцца
І з паднябесся пазіраў
На зруйнаваную граніцу.

З пас кожны быў жаданы госць
У месцы, кінутым панамі.
Калі ўсё ж голуб міру ёсць,
Дык ён цяпер кружыў над намі.

Верасень 1939

II

...Ішоў падлетак,
пэўна, многа сутак
З далёкай вёскі проста на Усход,
Кудлаты, абшарпаны і разуты,
Спяшаўся, як сапраўдны скараход.

Пад сонечнай сінечаю бяздоннай
Насустрач, быццам лёсу пасланцы,
На пяцітонках рушылі пантоны,
Грымелі танкі, ехалі байцы.

І кухні пахлі смачнай параю,
Хлапец паветра разрываў плячом,
Яго кармілі нашы кашавары
Духмяным хлебам і густым баршчом.

— Еш, сірацiна. Лепш сядзеў бы дома.
Да вас узяў кірунак паш паход.—
А ён ішоў, забыўшыся пра стому,
Ад роднай вёскі проста на Усход.

Ляцелі журавы з лясной крыніцы,
Барвовы лістапад яшчэ не сціх.
А ён да вызваліцеляў вучыцца
Ішоў,
        бо там вучылі дарма ўсіх.

Яму ўсе дзверы расчынілі насцеж,
Ён пасмялеў і дзякаваў камусь.
[ разам з ім з пакутаў і няшчасця
Заходняя ўставала Беларусь.

Ад радасці паветра не хапала,
Калі настаўнік гучна ў цішыні,
Не баючыся, ім чытаў Купалу,
У зрэнках загараліся агні.

Нібы маленства ён сустрэў папова,
Пачуўшы верш знаёмы праз гады,
І музыка чароўнай роднай мовы
Ужо была свабоднай назаўжды.



Kamunikat.org

...Калі б я сілу змог надаць радкам,
Каб уявілі некалі нашчадкі
Таго хлапца, што бег насустрач нам
І па яго плячах бялелі латкі.

Каб восень незабыўнаю была
І людзі памяталі гэты год,
Калі ўвесь край выходзіў да святла,
Як той хлапчук, што крочыў на Усход.

Маладзечна
Верасень 1939

kamunikat.org

## ***Марына Тарасава***

* * *

Ты ўсё ўзнімаешся ў вышыні,
Страмёны страціла душа,
І яваю пад небам сінім
Ты ўбачыш новае спярша:

Нібы спрадвечныя каралы,
Аблокі заплылі ў акно,
Нібыта неба памяняла
Вышыні на марское дно.

Ты ў дні такія дарагія
Дарэмна неба не трывож,
Бо толькі прывіды зямныя
Свідруюць сэрца, быццам нож.

І зноў прыпомняцца нясмела
Не воблакі, не зарапад,
А ландыш, у агні сатлелы,
Што цвіў тут сорак год назад.

### ***МІКОЛУ ПАЎЛАВІЧУ ЛОБАНУ***

Я трымаю яго пад руку,
Лёгкую, як ластаўчына крыло,
Я гуляю з ім пад самотнымі соснамі.
Ад ран незагойных
Яго неслухмяныя пальцы
Заўсёды дрыжаць,

Нібы метраном неспакойнага веку.
Сіл не стае сядзець у пачэсным прэзідыуме,
Сіл не стае прышпіліць ордэнскую калодку
Да злінялага пінжака.
Адзінокі светлы стары
З вачыма лясное крыніцы
Засланяў нашу Радзіму.
Як гэта сказана гучна.
Як гэта сказана ціха.

kamunikat.org

З украінскай мовы

## ***Тарас Шаўчэнка***

* * *

Садок вішнёвы каля хаты,
Хрушчы над вішнямі гудуць,
Аратыя з плугамі йдуць,
Спяваюць, ідучы, дзяўчаты,
Іх мацяркі вячэраць ждуць.

Сям’я вячэрае пры хаце,
Зара вячэрняя ўстае,
Дачка вячэраць падае,
Яе вучыць спрабуе маці,
Ды салавейка не дае.

Наклала маці каля хаты
Маленькіх дзетачак сваіх,
Сама заснула каля іх.
Заціхла ўсё. Пяюць дзяўчаты,
Ды салавейка не заціх.

1847
У каземаце

Kamunikat.org

## *КАСЕЦ*

Па-над полем ідзе,
Не пракосы кладзе,
Не пракосы кладзе — горы.
Стогнуць нівы, стогне мора,
Стогне і гудзе!

Л касца ўначы
Сустракаюць сычы.
Косіць ён, не спачывае,
Ні на кога не зважае,
Як ты ні прасі.

Як ні ўмольвай, ні прасі,
Не кляпае ён касы,
Ці то прыгарад, ці горад,
Быццам брытвай, гладка голіць,—
Рады не дасі.

Мужыка і шынкара,
Сіраціну — кабзара,
Прыпяваючы, ён косіць,
І растуць гарой пракосы,
Не мінае і цара.

І мяне не абміне
У далёкай старане,
І за кратамі дастане,
Над магілай крыж не стане,
І ніхто не ўспамяне.

1847
У казематце

* * *

Цячэ вада ў сіне мора,
Ды не выцякае,
А казак шукае долю,
Ды не адшукае.
І пайшоў у свет казана,
Грае сіне мора,
Грае сэрца Казанова,
А дума гаворыць:
Ты чаго ідзеш шукаці?
На каго пакінуў
Бацьку і старую маці,
Любую дзяўчыну?
Між чужых людзей, не дома,
Ох і цяжка жыці,
Бо не будзе з кім паплакаць
І пагаварыць
Сядзіць казак на беразе,
Грае сіне мора.
Думаў, долю напаткае,
А сустрэўся з горам.
Жураўліны клін высока
Ў небе пралятае.
Казак плача — шлях шырокі
Цернем зарастае.

1838
С-Пецярбург

З грузінскай мовы

## *Паола Яшвілі*

## *ТБІЛІСІ*

На Мамадавіці[1] ўзлячу за імгненне,—
Душа там прытулак знайшла ў цішыні.
Хачу перад вамі я стаць на калені,
Тбілісі і сонца, каб лепш з вышыні

Убачыць мой горад, шчаслівы і шчодры,
І сонца, і буйныя зоры ўначы,
І ясную далеч, каб слухаць акорды,
Якімі бяздоннае неба гучыць,

Убачыць арбу і духмянае сена,
Даўгія плыты на заломе ракі,
І белыя сосны,— нібы да калена
Пасталі ў Куры маладыя жанкі.

Гудуць твае вуліцы і тратуары,
Стракатыя плошчы начамі не спяць,
Узвышшы дымяцца блакітнаю парай,
Наўкола чыгунныя горы кіпяць.

[1] Мамадавіці — гара св. Давіда, яна ж Мтацмінда, дзе знаходзіцца пантэон выдатных дзеячаў Грузіі і магіла Грыбаедава.

Я вершы, нібыта крывавыя росы,
На твой пакладу недасяжны парог,
Мой горад любімы, мільёнагалосы,
Сталіца паэтаў і творчых трывог.

## *Я ВЕРНЫ САБЕ*

Маланак стрэлы між хмар імглістых
І горкі лівень — не перашкода
Звярнуцца з просьбай, паслацца лістам,
Каб слова з веццем з’яднала згода.

Я так скажу ім: хай ноч злуецца,
У гром і ў лівень не замаўчу я,—
І зноў з галінкі лісток праб’ецца,
Як толькі звонкі радок пачуе.

Калі з прадвесня да скону лета
Гамоняць словы чмяліным роем,
Няма, Прырода, вышэйшай мэты,
Чым увасобіць усё жывое.

Зямля, дай сыну пяро паэта,
Каб стала праца натхнёнай звычкай,
Твой сын павінен пацвердзіць гэта,
Каб іскры боскай не згасла знічка.

Зямля, Радзіма, ты маеш сілы
Дайсці праз штормы дарогай роўнай
Да залатое адвечнай жылы
І да жывое крыніцы моўнай.

Прадвесне служыць душы і славе,
Каб згінуў вораг,— я верны другу,
Я верны слову, а значыць — Справе,
Як сейбіт верны сяўні і плугу.

## З ЛІРЫЧНЫХ АДРАСОЎ

Я дагэтуль такога кахання не ведаў яшчэ,
Што трывожыць на золку, што будзіць уночы.
Я шукаю цябе. Боль мне сэрца пячэ,—
Што кахаю, засведчаць іскрыстыя вочы.

Я разгублены: глупства за глупствам раблю:
Гэта — ты, гэта — ты. За табою адною сачу я.
Памыляюся часта, бо шчыра, да болю люблю,—
Кліча нехта, а я анічога не чую.

Неспакой мой не можа развеяць нішто,
Бо з'явілася ты на парозе трывог і сумнення.
У мяне галава серабрыцца парошай густой.
Не турбуйся,— яна асвятляе сумленне.

Трыццаць сем прамінула суровых гадоў.
Будзь са мной, як мастак з неразлучнаю музай.
Я твае спадзяванні апраўдваць гатоў
І засведчыць любоў неразрыўным саюзам.

Хай цябе не трывожаць дакоры віны.
Я баюся маўчання, а трызніцца часам у гуле
Набліжэнне пачвары жахлівай вайны
І атрутнае джала мне ў сэрца нацэленай кулі.

***Калаў Надзірадзе***

## *ІДЗЕ СНЕГ*

*Памяці Тамар*

Ідуць снягі. Спакою, цішыні
Не рады я, і чысціні не веру...
Я песню завяршаю пры агні
І замыкаю за сабою дзверы.

Такая чысціня за думкамі ішла
І з нараджэння век мой скарачала,
Каб незабудка ў сэрцы расцвіла,
Каб муза, як сястра, мяне страчала.

Шапоча ціхі і сцюдзёны снег,—
Здаецца, час у незваротнасць крочыць,
І неўзабаве мой кароткі век
Укрые замець самай доўгай ночы...

Я чую стогн мінуўшчыны здалёк,
Λ заглушыць адчай не маю сілы.
Ты, дарагая, спіш, а снег халодны лёг
Глухім сумётам на тваю магілу.

Той снег ляціць на першую любоў
І шапаціць, як твой чароўны голас,
Тваю усмешку я лаўлю ізноў,
Хоць толькі снег і толькі ноч наўкола.

Ідуць снягі. Спакою, цішыні
Не рады я, і чысціні не веру.
Я песню завяршаю пры агні
Т замыкаю за сабою дзверы.



Kamunikat.org

## З аварскай мовы

***Расул Гамзатаў***

### *АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ*

Ты сказаў: «Прыязджай, калі ласка!
Будзеш госцем жаданым заўжды,
І не горай прысмакаў каўказскіх
Пакаштуеш і нашай яды.

І палі, і лясы беларусаў
Не падобны зусім на Каўказ.
Улічы, мы не маем Эльбруса,
І Казбек не прапісаны ў нас.

Ёсць узгоркі ў зялёных нізінах,
Ды не маем завоблачных сёл
І гары, дзе ў цяністых цяснінах
Раздзіраў Праметэя арол.

Даспадобы нам зёлкі і краскі,
Мы паходзім па пушчы з табой,
Бо не ў пас прасціраецца Каспій,
Не грыміць чарнаморскі прыбой.

Вадаспадаў няма ў паднябессі,
Што нясуць і каменне, і лёд.
Нашы рэкі, як ціхія песні,
Мы — лясны і азёрны народ...»

Нашу дружбу ў агні гартавалі,
Л братэрства гады берaглі,
Мне здаецца, што соснамі сталі
Партызаны, што ў вечнасць пайшлі.

І дубы, узнімаючы голле,
У палескай тваёй старане
Пра сардэчных, жывых, неадольных
Ветэранаў расказваюць мне.

Я ў вяршынях сваіх дагестанскіх
Да высокіх звяртаюся зор,
Што блішчаць у вачах партызанскіх
І ў празрыстым блакіце азёр.

Можа, гэта бліщчаць не азёры,
Можа, вочы братоў і сясцёр,
Што прайшлі праз нажары і гора,
Свой баронячы дом і свой двор.

Я — твой госць і паломнік святыні,
Перш чым сяду з табою за стол,
Пакланюся сатлелай Хатыні,
Папялішчам знявечаных сёл.

Час курадым і попел развеяў,
Але шрамы з душы не сышлі.
Колькі вырасла тут Праметэяў,
Па сівой беларускай зямлі.

Каб ніхто не забыў, несціхана
Звон гудзе і гудзе, як набат:
Хірасімы не гояцца раны.
Скрозь магілы нятленных салдат.

Кожны ўзгорак вышэй за Казбека,
А курганы круцей за Эльбрус.
На плячах неспакойнага веку —
Нашай горкае памяці груз.

Парадніліся ў сэрцы навекі
Шум бяроз з непрыступнасцю гор,
Магілёўскія сінія рэкі
І зялёны Каспійскі прастор.

Kamunikat.org

З балкарскай мовы

***Кайсын Куліеў***

## ***ЗЯМЛЯ БАЦЬКОЎ***

Зямля мая, каб ты заўжды радзіла,
Да кайданоў гатоў прывыкнуць сам.
Я так хачу, каб ты давала сілы
Аратым, сейбітам, вучоным і майстрам.

Тваю цалую гліну і твой камень,
Чэгемскі камень, дарагі да слёз,
І бачу, як пяшчотнымі рукамі
Твой камень ажывіў каменячос.

І плачу, гледзячы ў блакітныя прасторы,
Таму што цэлы век у ланцугах
Гатовы быў знаходзіцца, каб горы
Убачыць на заходзе у снягах.

Калі ірдзеюць іх павольна плечы,
Залітыя аленняю крывёй,
Зямля бацькоў, зноў радуюся стрэчы
Я з прыгажосцю вечнаю тваёй.

Kamunikat.org

ЗМЕСТ

ДЗВЕ ЗІМЫ

ЗВОНКІ РАДОК
(Пераклады)

З рускай мовы

Грахоўскі С.
Верую: Кн. новых вершаў, 1984—1986.—
Мн.: Маст. літ., 1987.— 143 с.: іл.

І ў новай кнізе вершаў Сяргей Грахоўскі верны сваім жыццёвым прынцыпам і перакананням — клопатам за лёс Зямлі і чалавека на ёй. Аўтар улюбёны ў хараство родных прастораў, у сумленных, добрых, шчырых і шчодрых людзей, балюча рэагуе на негатыўныя з'явы ў жыцці, веруе ў справядлівасць, розум і дабро.

Апрача паэмы-легенды «Нара», лірычных і гумарыстычных вершаў у кнігу ўвайшлі лепшыя пераклады з класічнай і сучаснай паэзіі.

**© OCR: Камунікат.org, 2018**
**© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2018**
**© PDF: Камунікат.org, 2018**

СЕРГЕЙ ИВАНОВИЧ ГРАХОВСКИЙ

ВЕРУЮ

Книга новых стихов 1984—1986

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Н. І. Семашкевіч
Мастак Ю. к. Зайцаў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Г. Г. Федарук
Карэктар Л. М. Маслоўская

ИБ № 51
Здадзена ў набор 08.12.86. Падп. да друку 13.05.87. АТ 07597. Фармат 70x90 1/32. Папера друк. № І. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,27. Ул.-выд. арк. 4,33. Тыраж 3000 экз. Зак. 3114. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.